اِیْ نَدُوژْ آدَاْمسکی جَلُووقْ آصْطَاطْنی جَاصْ
پْرِیْذْ نِحْطُو طَابْ نَدَا پُومُوجِ یَاقْ طِلْقُو بُوهْ
یَاقْ طَامْ قْرِجَاجْ بُوذَشْ نِحْطُو طْوَاهُو هُولَاصَ
نَپَاجُوی طِلْقُو بُوهْ
قَالِبْ چُوْ عْچِقَاجْ نِحْطُو طَبْ دَارُووِ نُوقَازْ
دَا صُدْنَهُو دْنَا نْحْطُو عُو جَبْ نَپَاپِطَای طِلْقُو بُوهْ
مَشْقَانَه یَاقُو مَایِشَه مِجْ نِحْطُو نَعَابَاجِج طِلْقُو بُوهْ
پِیَجْ یَجْ یِتْلْ هُوجَشْ نِحْطُو نَدَسْج طِلْقُو بُوهْ (

# 1997 ВЫПУСК 2

# БАЙРАМ

КВАРТАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ
ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ - КІТАБ"

بســم الله الرحمن الرحيم

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

Квартальнік

Беларускага згуртавання татараў-мусульман

"АЛЬ-КІТАБ"

№ 2

Менск 1997

*У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!*

Ассаляму алейкум, спадарыні і спадары, супляменнікі-татары, усе мусульмане!

*Той, хто мае хоць нейкае дачыненне да нашага квартальніка "Байрам", ці то як чытач, ці то як аўтар допісаў, арганізатараў, спонсараў, не хоча катэгарычна сцвярджаць, што і як трэба рабіць, каб наш невялікі народ шчыльнымі радамі крочыў у будучыню.*

*Кожны чалавек, ці шырока адукаваны, ці проста ўдумлівы і разважлівы, скажа, што галоўнае, гэта забяспечыць жыллём, вопраткай і абуткам, ежай тых, хто ад цябе залежыць — дзяцей, нямоглых старых, калі яны не маюць надзейных сродкаў для існавання.*

*Калі ўсё гэта ёсць, тады першачарговы і пастаянны клопат — выхаванне і навучанне дзяцей. Раней, калі большасць людзей жылі з мазаля, працоўныя прыёмы і пільнасць, працавітасць у дзяцей выхоўваліся з самага маленства. Гэта была хатняя адукацыя: навучы дзіця таму, што сам умееш. З цягам часу стала патрэбай уменне чытаць, рахаваць, пісаць. У дзяцей хрысціянскай веры патрабавалася веданне малітваў і веды Свяшчэннага Пісання. Калі школа была вельмі далёка, то бацькі наймалі дарэктара (той, хто чытаў "Новую зямлю" Якуба Коласа, ведае, што дарэктар, гэта хлапчук, які толькі што скончыў пачатковую школу, ужо ведае пачатковую грамату і можа вучыць другіх). У татарскіх сем`ях роль такіх хатніх настаўнікаў выконвалі пажылыя годжыі ці гаджыні, якія ўмелі чытаць Свяшчэнны Кур`ан, зналі асновы Ісляма і маглі навучыць асновам мусульманскай веры дзяцей.*

*Ішлі гады, мянялася ўлада і ідэалогія кіраўнікоў устаноў. У гады таталітарызму шматгадовы вопыт дамашняй адукацыі і выхавання пачаў ахайвацца. Настаўнікі, піянерважатыя, камсоргі накіроўвалі дзяцей на тое, каб яны былі такімі патрыётамі, якім быў Паўлік Марозаў. Больш-менш заможныя людзі, якія нешта мелі ў сваіх хатах, лічыліся кулакамі, падкулачнікамі, буржуінамі. А каму з дзяцей хацелася мець*

*мянушку з такім ненавісным адценнем? Вось і выгадавалі першае, другое, а затым і трэцяе пакаленне людзей, для якіх ужо дабрабыт не меў непарыўнай сувязі з працавітасцю. І мы цяпер маем тое, што маем.*

*Вядома, не толькі праца патрэбна чалавеку. Ёсць жаданне займацца нечым іншым, для душы. І тут можна знайсці сабе занятак, які пакіне след у памяці нашчадкаў. У тых, хто ў працоўным узросце выконваў праграму і план, складзены другімі, цяпер можа рабіць тое, на што не было часу раней. Глядзіш, як без шуму, без паказухі дапамагае татарка, татарын нямоглым супляменнікам, займаецца перадачай ведаў па Ісламу для дзяцей. Хораша на гэта глядзець. Прыемна, што такія ўчынкі заахвочваюць іншых.*

*У 1997 годзе спаўняецца 600 гадоў, як на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы, або Вялікага Княства Літоўскага, як гэтая дзяржава згадвалася ў гістарычнай літаратуры, летам у сучаснай Польшчы і Літве праведзены навуковыя канферэнцыі і дзяржаўныя ўрачыстасці. Беларускія татары былі запрошаны ў госці да нашых супляменнікаў-татар і нашых сяброў палякаў і летувісаў. Вядома, каб паехаць за мяжу, патрэбны былі клопаты і сродкі. Трэба было падумаць, за што, у чым і з чым паехаць. З тых, хто ездзіў у госці, найбольшае задавальненне атрымалі тыя, хто паехаў з Іманам і чысцюткай беларускай мовай. Тых прызналі там і мусульманамі і патрыётамі сваёй гістарычнай Радзімы.*

*У трэцім квартале 1997 года ўрачыстасць 600-гадовага юбілею пасялення татараў у ВКЛ адзначаецца на Беларусі і пра гэту падзею аж да 700-гадовага юбілею будуць пісаць у "Байраме".*

*У трэцім квартале гэтага года беларусы, а разам з імі і беларускія татары, будуць адзначаць слаўны юбілей вялікага сына беларускага народа — пісьменніка Беларусі Янкі Брыля. Ад імя татар, для якіх Іван Антонавіч з'яўляецца настаўнікам і апекуном, наш татарскі рахмат — дзякуй. Біяграфічны артыкул пра І.А.Брыля чытайце ў гэтым нумары "Байрама".*

*Ассалям алейкум — мір вам і міласць Аллага.*

# АДРОДЗІМ МУСУЛЬМАНСКІ ХРАМ

Да ўсіх мусульман, якія жывуць у Мінску!
Да усіх мусульман, што жывуць на Беларусі!
Браты мусульмане і сёстры мусульманкі, людзі добрыя!

У гэтым годзе на Беларусі, а таксама ў суседніх Літве і Польшчы будзе адзначацца знамянальная падзея — дзень нараджэння цэлага народа: 600-годдзе пасялення татар-мусульман на землях Вялікага Княства Літоўскага. Шэсць стагоддзяў жывем мы на гэтай зямлі. Тут наша Радзіма, гэтай зямлі верай і праўдай служылі нашыя продкі.

Беларускае згуртаванне "Аль-Кітаб" і мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь звяртаюцца да ўсіх мусульман, якія жывуць у Мінску і на Беларусі за дапамогай. Мы хочам адбудавць мячэць, якая была разбурана ў пачатку 1960-х гадоў.

Некаторыя мусульмане яшчэ памятаюць, што стаяла яна на Вялікай Татарскай вуліцы, цяпер праспект П. Машэрава, на месцы гасцініцы "Юбілейная".

Што такое мячэць для мусульманіна — ведаюць усе. Цяпер на Беларусі, дзякаваць Богу, дзейнічаюць 3 мячэці: у горадзе Слоніме і ў гарадскіх пасёлках Іўе і Смілавічы. Завяршаецца рэстаўрацыя мячэці ў г. Навагрудку. Але каб хоць адзін раз у год, на вялікае свята памаліцца ў мячэці, мінскім мусульманам трэба ехаць некалькі гадзін, а цяпер яшчэ і за вялікую плату, недаступную многім.

Амаль тры тысячы татараў-мусульман, якія жывуць у Мінску, больш за пяць тысяч мусульман з іншых былых саюзных і аўтаномных рэспублік, студэнты замежных краін, супрацоўнікі пасольстваў з мусульманскіх краін — усе зацікаўлены ў тым, каб у Мінску ўвесь час дзейнічала мусульманская саборная мячэць, існаваўшая ў горадзе з 1599 года.

Магчыма знойдуцца багатыя і добрыя кіраўнікі дзяржаў, кампаній і фірм, якія могуць аказаць дапамогу ў будаўніцтве мячэці. Толькі мы, мусульмане, не можам быць пасіўнымі, павінны самі збіраць сродкі на будаўніцтва. Нашы памерлыя продкі, іх душы адчуюць палёгку, што яшчэ не згінула ў душах мусульман вера ў Аллага. Нашы нашчадкі, перш за ўсё дзеці, унукі і праўнукі, парадуюцца,

што іх бацькі, дзяды і прадзеды таксама ўдзельнічаюць ў адбудове Мінскай мячэці. Ужо распрацаваны праект мячэці, гарадскімі ўладамі вылучана месца для будаўніцтва ў цэнтры горада, у раёне быўшай Татарскай Слабады.

Мусульмане! Памятайце, што да кожнага прыйдзе часіна, калі чалавеку ўжо не трэба ніякіх матэрыяльных каштоўнасцей, калі чалавек робіць падрахунак: а што добрае я зрабіў у сваім жыцці?

Кожны можа зрабіць хоць што-небудзь карыснае, хоць бы даць свой запрацаваны грош у адбудову Мінскай мячэці.

Мір Вам і міласць Аллага Усявышняга і Яго блаславенне!



*Мячэць у Мінску. Праект рэканструкцыі.*
*Мастак Ул. Шынкевіч, архітэктары: Б. Аляксандраў, Ул. Трацэўскі*

Вашы ахвяраванні на будаўніцтва мусульманскага храма можна пералічыць на разліковы рублёвы рахунак Беларускага згуртавання татараў-мусульман “Аль-Кітаб” № 3015206320013 у АКБ Беларускі Біржавы Банк у Мінску, код 781. Можна зрабіць паметку “Будаўніцтва мячэці”.

Даведкі па тэлефонах: (017) 261-84-93, 262-35-41, 254-32-42.

# Кур'ан

## Сура дзевятая — Аттаўба (Пакаянне)

1. (Да ведама) ад Аллага і Яго прарока аб поўным вызваленні ад усялякіх абавязательстваў, якія вы далі ў адносінах да многабожнікаў (язычнікаў).
2. Хадзіце ж свабодна па зямлі чатыры месяцы і ведайце: не можаце вы змяніць задумак Аллага. Ён — ганьбай пакрые бязбожных.
3. І вестка ад Аллага і пасланніка Яго да народа ў вялікі дзень Хаджа аб тым, што Аллаг і пасланнік Яго аддаліліся ад мнагабожнікаў. І калі вы ў пакаянні звернецеся да Аллага, то будзе лепш для вас. А калі вы (зноў) адвернецеся, то ведайце: не паслабіць вам Аллага! І скажы няверным, што іх чакаюць цяжкія пакуты.
4. Акрамя тых мнагабожнікаў, з якімі вы заключылі дамову і пасля гэтага яны ні ў чым яе не парушалі і ніколі не дапамагалі (іншым) супроць вас. І выконвайце свае абавязательствы перад імі да зыходу іх тэрміну. Бо Аллаг любіць богабаязных.
5. Калі ж забароненыя (для вайны) чатыры месяцы мінуць*, то забівайце мнагабожнікаў няверных (якія парушылі дамову) усюды, дзе б вы іх ні знайшлі: бярыце (ў палон) іх, акружайце (іх хаты) і чыніце на іх засады. Але калі звернуцца яны да Бога і будуць чыніць малітву, і будуць даваць міласціну, тады дайце ім дарогу. Гасподзь Прабачлівы і Міласэрны.
6. А калі сярод мнагабожнікаў ёсць такі, хто просіць у цябе прытулак, то дапамажы яму, каб ён меў магчымасць пачуць Слова Божае. Пасля адвядзі яго ў тое месца, якое будзе бяспечнае для яго. Так павінна быць — яны ж тыя, хто ніякіх (сапраўдных) ведаў не маюць.

---

* Зіль-Кадда, Зіль-Хаджа, Мухарэм, Раджаб

7. Як можа адбыцца дамова мнагабожнікаў з Аллагам і пасланнікам Яго, акрамя тых, з якімі вы заключылі дамову каля сцен Свяшчэннай мячэці? Пакуль яны верныя вам, будзьце верныя ім. Сапраўды, Аллаг любіць тых, хто баіцца Бога.
8. Як (можа быць такі саюз), калі яны (адчуўшы, што мацней за вас) не выконваюць дамову з вамі, не шануюць ні кроўнай сувязі, ні сваяцтва, ні абавязацельстваў па дамове? Яны словамі для вас стараюцца спадабацца, сэрцы ж іх адмаўляюць (у гэтым), і большасць з іх вераломныя.
9. Яны за мізэрную плату гандлююць знаменнямі Аллага і збіваюць (многіх) з правільнай дарогі. І дрэнную ж справу яны чыняць.
10. Яны не шануюць ні кроўныя сувязі, ні дамовы з кім-небудзь, хто давярае ім. І чыняць беззаконне.
11. Але калі звернуцца яны да Бога з пакаяннем, і будуць чыніць Малітву і плаціць Закят, тады яны — браты вашыя па веры. Так растлумачым Свае знаменні для тых, хто разумее.
12. А калі парушаюць яны клятву сваю пасля дамовы і пачнуць зневажаць веру вашу, тады перш за ўсё дайце бой гэтым кіраўнікам няверных — бо клятвы для іх не існуе. А гэта, можа быць, будзе стрымліваць іх.
13. Няўжо не будзеце вы змагацца з народам, які парушае свае клятвы і задумваў выгнаць Пасланніка? Яны вас першымі атакавалі, няўжо вы іх баіцеся? Не, трэба вам больш баяцца Аллага, калі вы ўвервалі.
14. Змагайцеся з імі. Іх вашымі рукамі пакарае Аллаг і пакрые ганьбай. Дапаможа вам іх перамагчы і вылечыць сэрцы рахманых,
15. прагоніць зайздрасць з іх сэрцаў. Аллаг звяртаецца да таго, каго пажадае. Аллаг Усявед, Мудры.
16. Няўжо вы думаеце, што Аллаг вас пакіне не распазнаўшы між вамі тых, якія мужныя ў баі, і апекунамі не бяруць сабе нікога, акрамя Аллага і пасланніка Яго, і тых, хто (усёй душой) Яму адданыя. Бо ведае Аллаг пра тое, што вы чыніце.
17. Не могуць мнагабожнікі падтрымліваць Мячэці Аллага ў добрым стане, калі яны сведчаць супроць саміх сябе аб сваім нявер'і. Справы іх марныя! Агонь будзе іх жытлом.

مَا كَانَ لِلْمُشْرِكِيْنَ اَنْ يَّعْمُرُوْا مَسٰجِدَ اللّٰهِ شٰهِدِيْنَ

عَلٰٓى اَنْفُسِهِمْ بِالْكُفْرِ ؕ اُولٰٓئِكَ حَبِطَتْ اَعْمَالُهُمْ ۚۖ وَ

فِى النَّارِ هُمْ خٰلِدُوْنَ ﴿١٧﴾

اِنَّمَا يَعْمُرُ مَسٰجِدَ اللّٰهِ مَنْ اٰمَنَ بِاللّٰهِ وَالْيَوْمِ الْاٰخِرِ

وَاَقَامَ الصَّلٰوةَ وَاٰتَى الزَّكٰوةَ وَلَمْ يَخْشَ اِلَّا اللّٰهَ فَعَسٰٓى

اُولٰٓئِكَ اَنْ يَّكُوْنُوْا مِنَ الْمُهْتَدِيْنَ ﴿١٨﴾

اَجَعَلْتُمْ سِقَايَةَ الْحَآجِّ وَعِمَارَةَ الْمَسْجِدِ الْحَرَامِ

كَمَنْ اٰمَنَ بِاللّٰهِ وَالْيَوْمِ الْاٰخِرِ وَجٰهَدَ فِىْ سَبِيْلِ

اللّٰهِ ؕ لَا يَسْتَوٗنَ عِنْدَ اللّٰهِ ؕ وَاللّٰهُ لَا يَهْدِى الْقَوْمَ

الظّٰلِمِيْنَ ﴿١٩﴾ م

*Кур’ан. Сура Аттаўба. Аяты 17, 18, 19.*

18. І будуць прыходзіць у святыні Аллага тыя, хто верыць у Аллага і Дзень Апошні; тыя, хто адпраўляе намаз; тыя, якія плацяць Закят, і не баяцца нікога, акрамя Аллага, — такія могут быць сярод тых, хто дасягае мэты.
19. Няўжо той, хто наталяе смагу пілігрымаў і выконвае абрады каля Святой мячэці падобны да того, хто ўвераваў у Аллага і ў Дзень Апошні і хто аддае ў баі з няверныні ўсе сілы, змагаючыся на шляху Аллага? Яны не роўныя перад Аллагам. Аллаг не вядзе дарогай простай людзей несправядлівых.
20. Тыя, якія ўвераваліі (хату родную пакінуўшы) перасяліліся (у чужыя краіны), і хто (з няверныні) ў баі ўсе сілы аддае на промысле Аллага, змагаючыся сваім дабром, і сэрцам, і душою, яны маюць найвышэйшую адзнаку ў Аллага. І яны перамогуць.
21. Іх Уладыка абвесціць ім радасную вестку аб міласці Сваей і блаславенні Сваім, і аб Садах, дзе іх чакае бясконцая асалода.
22. Там будуць яны знаходзіцца вечна. Сапраўды, вялікая ўзнагарода Аллага!
23. О вы, хто веруе! Не бярыце за сяброў вашых бацькоў і вашых братоў, калі яны нявер'е ставяць вышэй за веру. А тыя з вас, хто бярэ іх у сябры (дазволенае Аллагам) пераступае.
24. Скажы: калі бацькі вашы, і сыны вашы, і браты вашы, і жонкі вашы, і радня ваша, і багацці намножаныя вамі, і гандаль, застой якога вас страшыць, і любімае жытло вам даражэй, чым Аллаг і пасланнік Яго і подзвіг у імя Аллага, тады чакайце прышэсце Аллага з судом Яго; Аллаг не павядзе дарогай простай народ разбэшчаны.
25. Аллаг дапамог вам у многіх бітвах, дапамог Ён вам і ў дзень Гунейны*, калі (перапоўненыя пыхай) вы ганарыліся сваёй шматлікасцю і сілай. Але вашая шматлікасць і сіла нічым не дапамглі вам, і цеснай вам зрабілася зямля там, дзе была яна прасторнай, і вы тады паказалі спіны і кінуліся ўцякаць.
26. Пасля Аллаг паслаў Свой спакой на Свайго пасланніка і на вернікаў. І воінства нябачнае прывёў, і пакінуў няверных. Такая адплата для няверных.

* Гунейна — горная даліна на ўсход ад Меккі

27. Пасля гэтага звярнуўся Аллаг з міласэрнасцю да ўсіх, хто мілы Яму, бо Ён, сапраўды — Усёдаравальны і Міласэрны.
28. О вы, хто верыць! Мнагабожнікі, сапраўды, нячыстыя. І няхай яны не набліжаюцца цяпер да Забароненай (для граху) Мячэці, калі міне гэты год. А калі беднасць вас страшыць — узбагаціць вас Аллаг Сваей ласкай, калі захоча. Сапраўды, Усявед Ён і Мудры.
29. Змагайцеся з тымі з людзей Пісання (святога), хто ў Госпада і Судны Дзень не верыць, і не лічыць забароненым тое, што не дазволена Аллагам, — датуль, пакуль яны вам не стануць плаціць даніну сваёй уласнай рукой і не засведчаць сваей пакорай.
30. Іудзеі кажуць: "Ездра — сын Божы". А хрысціяне кажуць: "Майсей — сын Божы". Гэтыя словы гучаць з іх вуснаў — так гаворачы, яны прыпадабняюцца няверным, якія да іх грашылі тым жа. Праклянцце Аллага няхай будзе на іх (за абагаўленне смертных)! Несумяшчальна са святасцю Яго тое, што яны дадаюць Яму.
31. Яны сабе, акрамя Бога, вучоных (святароў) і манахаў за Госпада бяруць. А таксама сына Марыям (Марыі) — месію, хоць загадана ім было пакланяцца Богу Адзінаму (для ўсіх), акрамя Якога іншага боства не існуе. Субханагу! (хвала Яму!). Найвышэйшы Ён над усімі, якіх у саўдзельнікі Яму яны (недасведчанасцю ўпарта) дадаюць.
32. Яны вуснамі сваімі жадаюць Святло Божае патушыць, але не дапусціць Бог іншага, як толькі тое, што ўмацуе Яго, нават калі мнагабожнікам гэта ненавісна.
33. Ён — той, хто паслаў вам Свайго пасланніка і з ім — (вам) кіраўніка (у жыцці), і рэлігію, (што святло Гасподняе) Ісціны (нясе), каб явіць яе вышэй за іншую (веру), хоць мнагабожнікам і ненавісна гэта.
34. О вы, хто верыць! Сярод святароў і манахаў ёсць шмат такіх, якія авалодваюць маёмасцю людзей няправедным шляхам і адхіляць людзей ад Божага Шляху — абвясці ім, што іх чакае цяжкая кара.

35. У той Дзень, калі ў Агні расплаўлена (дабро іх) будзе, ім будуць кляйміць іх ілбы, бакі і спіны: “Вось — тое, што схавалі вы сабе! Адведайце ж тое, што збераглі вы для сябе!”
36. Сапраўды, у Аллага дванаццаць месяцаў (у годзе), як значыцца ў Пісанні Гасподнім, як стварыў Ён неба і зямлю. З іх чатыры месяцы забароненыя, а таму (калі мнагабожнікі абвесцяць вам вайну) на працягу гэтых забароненых месяцаў, вы зла самім сабе не чыніце і з імі ўсе ваюйце таксама, як яны ўсе ваююць супроць вас. Але усё ж ведайце, што Аллаг з тымі, хто баіцца Яго гневу, здольныя (і сябе і праціўніка) стрымаць.
37. Сапраўды, перанос забароненых месяцаў на іншы тэрмін — павелічэнне нявер‘я, і гэтым уводзяць у блытаніну толькі няверных. Яны лічаць (гэты месяц) дазволеным у адным годзе, у другім жа — робяць яго забароненым, каб прывесці яго ў адпаведнасць з тым тэрмінам, які Аллаг загадаў лічыць, і гэтым зрабіць дазволеным (гэты месяц). Дрэнныя справы іх здаюцца ім добрымі. Але простай дарогай Аллаг не вядзе няверных.
38. О вы, хто верыць! Што ж вы, калі вам кажуць: “За справу Аллага ідзіце ў паход!” да зямлі схіляецеся (з цяжкім сэрцам)? Няўжо выгодам гэтага жыцця вы аддаеце перавагу перад праведнай вечнасцю іншага жыцця? Даброты гэтага жыцця такія малыя ў параўнанні з асалодай іншага жыцця.
39. І калі ў паход вы не пойдзеце, пакарае вас Аллаг цяжкай карай, заменіць вас іншым народам, — вы ж шкоды ніякай Яму не зробіце, бо Аллаг мае поўную ўладу над усім.
40. Калі (цяпер) вы не дапаможаце яму (Мухаммеду, Аллаг яму акажа дапамогу), бо Ён дапамог яму ўжо, калі няверныя яго выгналі, і было толькі двое іх. У пячоры абодва яны схаваліся, і спадарожніку сказаў ён свайму: “Ты не тужы, з намі Аллаг!” Тады Аллаг паслаў на яго Свой спакой і ўмацаваў яго Сваім войскам, якога вы не бачылі, і панізіў слова тых, якія не ўверывалі, а слова Аллага ўзвысіў да неба. Сапраўды, Ён Мудры і Магутны!
41. Рушце — лёгка і цяжка ўзброеныя! Ваюйце вашай маёмасцю і вашымі душамі на шляху Аллага! Гэта лепшае для вас, калі б вы толькі ведалі.

*(Працяг будзе)*

# УЧЕНЫЙ - ТЕПЛОФИЗИК БЕКИР СМОЛЬСКИЙ

## (Неизвестные и малоизвестные страницы биографии)

Белорусский татарин Бекир Михайлович Смольский (1913-1982) был талантливым ученым в области теплотехники. Основные работы ученого посвящены промышленной теплотехнике, методам термовлажной обработки материалов, очистке газовых промышленных выбросов, процессам переноса тепла и вещества в условиях вакуума. Б.М.Смольский определил оптимальные условия для интенсификации сублимационного обезвоживания капиллярно-пористых веществ, изучил влияние термодиффузии при термической обработке капиллярно-пористых материалов.

Под руководством Бекира Михайловича Смольского и при его личном участии были выполнены важные исследования процессов тепло- и массообмена при фазовых и химических превращениях, разработаны научные основы их применения в народном хозяйстве. Под его непосредственным руководством был создан первый в Беларуси комплекс аэродинамических труб, гидроканалов и крупных сублимационных установок, оснащенных совершенной измерительной аппаратурой. С их помощью в дальнейшем были проведены исследования в области аэродинамики и тепломассообмена, а также прикладные разработки важнейших задач промышленной теплотехники, топливных элементов, сушки, испарительного пористого охлаждения теплонапряженных узлов и деталей различных аппаратов.

В 1948 году Б.М. Смольский стал кандидатом, а через десять лет — доктором технических наук. Признанием заслуг ученого было избрание его в 1967 году членом-корреспондентом АН БССР.

Четверть века профессор Смольский возглавлял лабораторию термоаэродинамики Института тепло- и массообмена им. А.В. Лыкова АН БССР. Он был автором более 180 научных работ, ряда монографий. Бекиру Михайловичу принадлежало 20 свидетельств

на изобретения. Ученый-теплофизик Б.М. Смольский создал свою научную школу. 25 его учеников стали кандидатами наук, а трое — докторами наук. Как заместитель директора института по научной работе, Бекир Михайлович много сделал для укрепления авторитета ИТМО не только в СССР, но и за рубежом.

Мы остановимся на неизвестных и малоизвестных страницах биографии этого талантливого ученого, посвященных его происхождению и участию в Великой Отечественной войне.

Всю свою жизнь профессор Б.М. Смольский вынужден был скрывать свое дворянское происхождение. Его отцом был Михаил Бекирович, дедом — Бекир Адамович, прадедом — Адам Газеевич, а прапрадедом — Газей Самуилович Смольский.

В августе 1867 года Правительствующий Сенат России слушал дело о дворянстве рода татар Смольских, представленное Минским Дворянским Депутатским Собранием. Из дела видно, что предки рода татар Смольских, а именно: Самуил, сын его Газей и внуки: Иосиф, Адам и Александр Газеевы Смольские владели с 1618 года недвижимым населенным крестьянами имением Новоселки, в Минском Воеводстве состоящим, каковые имение Иосиф, Адам и Александр Газеевы Смольские продали в 1737 году в постороннее владение... По сему и руководствуясь Св. Зак. тома IX о сост. 1857 года ) Ст. 54-60-64-65 и 1638 Правительствующий Сенат ОПРЕДЕЛЯЕТ: Утвердить постановление Минского Дворянского Депутатского Собрания 13 ноября 1823 года, 2I марта 1834 года, 6 марта 1858 года и 31 июля 1867 года в состоявшемся о признании вышепрописанных рода Смольских в ПОТОМСТВЕННОМ ДВОРЯНСТВЕ... Ноября 24 дня 1867 года подлинник подписали: и.д. товарища Геральдмейстера Александров и Помощник секретаря — Федоров[1]. В архиве хранится и следующий документ: "1868 года февраля 24 дня. По указу его Императорского Величества сия копия

1 Из семейного архива Смольских (Оригинал документа находится в Минске у Натальи Васильевны Наумович — племянницы Бекира Михайловича Смольского).

свидетельствована в Минском Дворянском Депутатском Собрании С подлинным указом Правительствующего Сената по Департаменту Геральдии и сходно прошению Дворянина Адама Иосифовича Смольского выдана двоюродному брату дяди просителя Бекиру Адамову Смольскому за надлежащим подписом и приложением Минского Дворянского Собрания печати г. Минска. Минский Губернский Предводитель Дворянства Действительный Статский Советник и Кавалер (подпись неразборчива)"[2]. А вот документ, датированный 1891-м годом:

СВИДЕТЕЛЬСТВО

По указу Его Императорского Величества вследствие прошения Коллежского Советника Бекира Адамова Смольского, дано из Минского Депутатского Дворянского Собрания в том, что сын настоящего просителя Михаил Бекиров Смольский, родившийся тысяча восемьсот восемьдесят восьмого года Февраля 28-го дня определением сего Собрания 3 июля 1891 года состоявшимся сопричислен к дворянскому роду Татар Смольских и указом Правительствующего Сената по Департаменту Герольдии от 7 ноября 1891 года за 6403 в сие Собрание последовавшим окончательно утвержден в потомственном дворянском достоинстве, со внесением в особо установленный для Татарских родов список.

В уверение чего и выдано сие свидетельство Михаилу Бекировичу Смольскому за надлежащим подписом с приложением казенной печати. Гербовым сбором оплачено. Декабря 19 дня 1891 года, г. Минск.

Минский Губернский Предводитель Дворянства Действительный Статский Советник и Кавалер (подпись неразборчива)"[3].

Напоминаем, что Михаил Бекировичч Смольский — это отец Бекира Михайловича Смольского.

В нашем распоряжении имеется еще один уникальный документ, доказывающий что не только отец Б.М. Смольского был дворянином.

2 там же

3 там же

Дворянкой была и его мать — Роза Александровна Сафаревич. Речь идет о свидетельстве о браке. В нем говорится:

"В метрической книге Минской губернии, веденной в тысяча девятьсот двенадцатом году за 2540, и хранящейся при Виленском Военно-Окружном имаме, в отделе сочетавшихся браками, в статье под вторым, записанным значится: июня 17 дня, Роза, дочь дворянина гор. Минска Александра Авраамовича Сафаревича, 23 лет, бракосочеталась с Михаилом 24 лет, сыном дворянина гор. Минска Бекира Адамовича Смольскаго. Оба вступили в первый брак. Свидетелями о желании невесты на бракосочетание были: Генерал Александр Яковлевич Сафаревич и Иван Константинович Якубовский..."[4].

Большой интерес представляет военная биография Б.М. Смольского, точнее, его участие в Великой Отечественной войне. Бекир Михайлович Смольский воевал на Ленинградском и Волховском фронтах, оборонял Вязьму, был участником освобождения Беларуси и Польши. В его памяти навсегда остались тяжелые бои под Ленинградом и Гдыней, в Восточной Пруссии.

158-й инженерно-саперный батальон в составе тысячи человек под командованием подполковника инженерных войск Б.М. Смольского входил в состав 12-й инженерно-саперной Рижской Краснознаменной, ордена Кутузова бригады. Он прошёл славный боевой путь до самой Германии — через Смоленскую, Брянскую, Ленинградскую, Новгородскую и Псковскую области, Прибалтику, Польшу...

Соединение, в котором Смольский был командиром батальона, находилось в резерве Главного командования, и его направляли туда, где возникала острая необходимость значительно усилить инженерное обеспечение войск. Саперы отроили мосты, прокладывали маршруты для танков, оборудовали командные пункты, минировали и разминировали местность, действовали в составе танковых десантов. Саперы подполковника Смольского выполняли

4 там же

и специальные задания — проникали в тыл врага и там разведывали промежуточные укрепленные рубежи, дороги. Особые группы саперов взрывали мосты на важных коммуникациях, образуя во вражеском тылу “пробки”.

Для награждения командиров Красной Армии за выдающиеся заслуги в организации и руководстве боевыми операциями и за достигнутые в результате этих операций успехи в боях за Родину 29 июля 1942 года были учреждены военные ордена — Суворова, Кутузова, Александра Невского.

За годы Великой Отечественной войны во всей Красной Армии было произведено только 42 тысячи награждений орденом Александра Невского. Одно из них связано с именем командира 158-го инженерно-саперного батальона Б.М. Смольского. Этот высокий и почетный орден Бекир Михайлович получил за форсирование Днепра под Лоевом в 1943-м году.

После окончания военных действий в Европе бригаду перебросили на Дальний Восток, где она участвовала в разгроме Квантунской армии. В газете “Комсомольская правда” за 18 августа 1945 года говорилось об успешных боевых действиях “саперов офицера Смольского”[5].

Боевые заслуги Бекира Михайловича Смольского в годы Великой Отечественной войны отмечены орденом Александра Невского, двумя орденами Отечественной войны 1-и степени, орденами Отечественной войны 2-й степени и Красной Звезды, восемью медалями.

Научная и боевая деятельность Б.М.Смольского достойны того, чтобы его имя носила одна из улиц его родного города Минска.

*Эмалуил Григорьевич Иоффе,*
*академик Международной Академии*
*изучения национальных меньшинств,*
*профессор, доктор исторических наук*

5 Июльский Р., Непомнящий К. “В глубь Маньчжурии”, Комсомольская правда, 1945, 18 августа.

# НЕАПРАЎДАНАЕ МАЎЧАННЕ

(Слова пра кнігу С.Думіна і І.Канапацкага "Беларускія татары: мінулае і сучаснасць")

Апошняе дзесяцігоддзе не мае сабе роўных па выпуску друкаванай прадукцыі, прысвечанай жыццю беларускіх татараў. Несумненна, самая адметная тут з'ява — выданне з 1991 г. на беларускай мове штоквартальніка "Байрам", на старонках якога друкуюцца матэрыялы як з далёкага мінулага, так і сённяшняга дня татараў. У штоквартальніку ўжо паспелі выступіць дзясяткі вядомых у нашай краіне навукоўцаў, прадстаўнікоў мастацкай інтэлігенцыі. А быў жа час, асабліва ў пасляваенны перыяд, што на працягу дзесяцігоддзяў, а то і некалькіх, практычна зусім нічога не з'яўлялася ў друку па гісторыі, культуры ці іншых пытаннях з жыцця гэтай адной з самых спрадвечных на Беларусі нацыянальных меншасцяў. І трэба толькі вітаць, што нарэшце гэтай крайне непажаданай тэндэнцыі быў пакладзены канец. Прычым не толькі дзякуючы выданню штоквартальніка "Байрам". Адначасова з ім пачалі таксама друкавацца матэрыялы навуковых канферэнцый па татарскай праблематыцы, выходзіць па ёй кнігі і брашуры. Усе гэтыя віды друкаванай прадукцыі вельмі паглыбілі нашыя веды пра беларускіх татараў. І не толькі. Такога роду кнігі, брашуры, часопісы моцна паўплывалі на іх настрой, падштурхнулі многіх задумацца над сваім "Я", адчуць адказнасць за лёс сваёй нацыянальнай групы, які ніяк нельга назваць бясхмарным. Без усялякай радасці хачу адзначыць, што з'яўленне вялікай па колькасці і багатай паводле зместу друкаванай прадукцыі па татарскай тэматыцы не выклікала да сябе належнай увагі з боку нашых гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, крытыкаў і проста рэцэнзентаў. Часта выхад з друку кнігі ці брашуры, не кажучы ўжо пра чарговы нумар часопіса "Байрам", абмяжоўваецца толькі чыста фармальным засведчаннем у якой-небудзь газеце гэтага факта, а ў лепшым выпадку — пералікам назваў найбольш істотных артыкулаў у іх.

Не стала прадметам увагі навукоўцаў кніга Станіслава Думіна і Ібрагіма Канапацкага "Беларускія татары. Мінулае і сучаснасць" (Мінск, 1993, "Полымя"). А гэта ж кніга — зусім не радавая з'ява ў даследаванні гісторыі і сучаснага жыцця беларускіх татараў. Да

апошняга часу па дадзенай прабleме ў нас мелася толькі адна сур'ёзная публікацыя: "Исследование о происхождении и состоянии литовских татар" А.Мухлінскага (Спб, 1857). Выходзіць, што ў нас у моц розных — большай часткай неспрыяльных — абставін мелася магчымасць напісаць і выдаць за сто гадоў не больш як па адной больш-менш буйной працы па гісторыі татарскай нацменшасці, хаця тут яшчэ чакае нашых даследчыкаў шмат чаго нязведанага і цікавага, вельмі неабходнага для больш поўнага разумення гісторыі не толькі татараў, але і беларусаў.

Кніга, пра якую даводзіцца гаварыць з немалым спазненнем, выгадна адрозніваецца паводле сваёй структуры ад нашых звычайных гістарычных прац. У ёй няма выразнай храналогіі, тыповай перыядызацыі, да чаго мы ўсе так прывыклі і іншага падыходу проста прызнаваць не хочам. У дадзеным выпадку адыход ад храналагічнага прынцыпу зусім не азначае ігнаравання аўтарамі апошняга, бо яны знайшлі іншыя шляхі захаваць яго ў кнізе, а менавіта — праз бездакорны падбор і прадуманае размяшчэнне яе сюжэтаў, якіх тут каля трох дзясяткаў, прычым з вельмі трапнымі назвамі. Вось некалькі з іх: "Разам з Тахтамышам", "Імем Вітаўта", "На службе ў Ягелонаў", "У дзяржаве "абодвух народаў", "Пад сцягамі канфедэратаў", "У цяні двухгаловага арла". Кожны з сюжэтаў падаецца ў кнізе ў поўнай адпаведнасці з храналагічным прынцыпам.

Пераацэнка многіх створаных дарэвалюцыйнымі і савецкімі гісторыкамі міфаў па гісторыі рускага і заваяваных ім народаў дазволіла аўтарам дадзенай кнігі ў многіх месцах адысці ад традыцыйнай трактоўкі тых ці іншых падзей, звязаных з войнамі Маскоўскай дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) з Залатой Ардой. Датычыць гэта і паказу бітвы ля Сіняй Вады ў Падольскай зямлі, што адбывалася ўвосень 1362 г. Доўгі час пра гэтую падзею амаль нічога не згадвалася ў школьных і інстытуцкіх (універсітэцкіх) падручніках па гісторыі, хаця вядома, што ў выніку той бітвы ўладанні Вялікага Княства Літоўскага пашырыліся ажно да вусця Дняпра і Днястра. Гедымінавічы ўстанавілі сваю ўладу над Кіеўскім і Валынскім княствамі, Падоліяй, Чарнігаўшчынай і Севершчынай. Цяпер ужо пра гэта пішуць, на што не мог не звярнуць увагі і адзін з аўтараў кнігі, якую я разглядаю, Станіслаў Думін. Пахвальна, што тут ён засяроджвае ўвагу на самым істотным: дзякуючы шчасліваму

зыходу гэтай бітвы "Альгерду за два дзесяцігоддзі да Куліко́ўскай бітвы ўдалося нанесці (татара-мангольскім заваёўнікам — Л.Л.) першае буйное паражэнне, што мела не толькі тактычныя і стратэгічныя вынікі, але і прывяло да страты Ардой кантролю над значнымі тэрыторыямі, якія складалі некалі ядро Кіеўскай Русі (С.6).

У заслугу С.Думіну трэба паставіць, што ён не забыўся нам прыгадаць, што ваеннае супрацоўніцтва ВКЛ з Залатой Ардой пачалося на некалькі дзесяткаў гадоў раней, чым у нас пасяліліся на сталае жыхарства першыя татары. Пацвярджаецца гэта ў кнізе спасылкамі на факты ўдзелу татараў у вайне Гедыміна з крыжакамі ў 1319 годзе, паходзе ў 1350 г. сумесна з войскам вялікага князя Кейстута на Польшчу. Многія ж гісторыкі, жадаючы штосьці сказаць пра супольныя ваенныя дзеянні войскаў ВКЛ і татараў, часта пачынаюць гаворку толькі з Грунвальдскай бітвы 1410 г., не зважаючы на ўсё тое, што папярэднічала ёй у ваенных дзеяннях гэтых дзвюх магутных у ратных справах сіл.

Атрымліваючы надзейную падмогу ад татараў, военачальнікі Княства лічылі, калі такое выклікалася канкрэтным становішчам, і самім стаць са сваім войскам на іх бок, як гэта назіралася ў апошнім дзесяцігоддзі 14 ст. падчас спробаў пасадзіць адхіленага ад улады хана Тахтамыша на ардынскі трон. Зусім апраўдана, што падзеі, звязаныя з гэтым, не абмінуты ў кнізе. Падобнага роду матэрыяламі яна аказалася вельмі багатай.

С.Думіным беспамылкова паказана роля рэлігійнага фактару ў складванні беларускіх татараў у самабытную этнічную групу ВКЛ. Пасля падрабязнага аналізу шматлікіх матэрыялаў і фактаў, што маюць самае непасрэднае дачыненне да рэлігійнага жыцця, ён робіць слушную выснову: толькі дзякуючы прызнанню за татарскімі пасяленцамі ў Княстве права заставацца ў сваёй веры яны не растварыліся сярод яго насельніцтва, "а аформіліся ў асобную этнічную групу, у адрозненне ад татар, пасланых Вітаўтам у Польшчу і ахрышчаных па загаду Ягайлы, ці іх супляменнікаў, узятых на службу да маскоўскіх князёў і таксама вымушаных ахрысціцца" (С.22).

Цікавымі, неадназначнымі падаюцца меркаванні С.Думіна аб узаемадачыненнях беларускіх татараў са сваімі супляменнікамі з

Крымскага ханства. Справядліва ставячы пад сумненне рэальнасць вельмі часта цытаванага з кнігі А.Мухлінскага паслання татараў ВКЛ да кіраўнікоў Крыма, у якім гаварылася пра прыхільнасць і любоў да новай радзімы, гатоўнасць адстойваць яе інтарэсы ў барацьбе з любымі заваёўнікамі, у т.л. і ваярамі з Крыма, аўтар палічыў неабходным ахарактарызаваць наступнымі словамі тадышнюю сітуацыю: "... татары Вялікага Княства служылі сваёй новай айчыне, змагаліся з яе ворагамі, у тым ліку і з адзінаверцамі-мусульманамі. Дарэчы, яны захоўвалі з татарскімі ордамі і некаторыя зносіны, родавыя, рэлігійныя і іншыя сувязі з мусульманскім светам. Але ўсё гэта не перашкаджае ім быць вернымі падданымі той дзяржавы, якая стала іх радзімай" (С.43). Засумнявацца ў аб'ектыўнасці сказанага няма падставаў.

Вельмі карыснымі для чытача могуць стаць старонкі кнігі, у якіх ідзе гаворка пра прававое становішча беларускіх татараў у адпаведнасці з Літоўскімі Статутамі 1529, 1566 і 1588 гадоў. У шэрагу выпадкаў татары мелі даволі істотныя абмежаванні ў сваіх правах у параўнанні з карэнным насельніцтвам ВКЛ: забарона валодаць нявольнай чэляддзю, купляць альбо браць пад заклад такіх людзей, прымаць у судзе сведчанні татараў па зямельных справах (С.49). Праўда, пазней такога роду абмежаванні былі ці зусім адменены, ці значна аслаблены ў сваёй строгасці, затое з'явіўся шэраг новых забаронаў для татараў, што даволі падрабязна разгледжана аўтарам. Яго выснова па гэтым прынцыпова важным пытанні сфармулявана такім чынам: "... прававое становішча татар у Вялікім Княстве Літоўскім пры Вітаўце і Ягелонах увогуле было задавальняючым, і адносіны гэтай дзяржавы да іншаверцаў — прадстаўнікоў той рэлігіі, з якой на працягу ўсяго сярэдневечча, ды і пазней, хрысціянская Еўропа вяла жорсткую барацьбу, — робяць гонар і дынастыі, і ўраду, і правячаму саслоўю княства" (С.55). Думаю, што такая выснова выклікае ў кожнага сучаснага сумленнага беларуса гонар за сваю дзяржаву ў асобе ВКЛ, нараджае жаданне і сёння жыць у міры і згодзе з татарамі, якіх далёка не просты лёс прывёў у наш край.

Наша гістарычная навука павінна быць вельмі ўдзячнай аўтарам дадзенай кнігі за іх цікавыя і рэдкія матэрыялы аб удзеле беларускіх татараў у дыпламатычных зносінах з татарскімі ханствамі, Крымам

і Турцыяй, чаму раней даследчыкамі практычна не надавалася аніякай увагі.

Было б парушэннем ісціны, каб узаемадачыненні беларусаў і татараў на тэрыторыі ВКЛ маляваліся толькі ружовымі фарбамі. Не трэба забывацца, што размова ж ідзе пра людзей розных веравызнанняў, прычым такіх, якія не дужа прыхільна ставіліся адна да адной. У якасці яскравага прыкладу меўшых месца непаразуменняў паміж карэнным насельніцтвам і татарамі прыводзяцца вытрымкі з кнігі невядомага аўтара, што выйшла ў 1616 г. Каб дзяржава падтрымала яго прапановы: прымусіць татараў "хадзіць у касцёлы... усе мячэці разбурыць або пераабсталяваць пад корчмы і хлявы, забраць у татар усялякія прывілеі і абкласці іх падаткамі, пазбавіць права сведчыць у судзе супраць хрысціян і судзіцца земскім правам, забараніць насіць зброю і служыць у войску, паколькі такое войска гасподзь не благаслаўляе, і, нарэшце ... прагнаць усіх з Вялікага княства" (С.65), ужо дзесці ў сярэдзіне 17 ст. надышоў бы "апошні дзень Пампеі" для дадзенай этнічнай меншасці ў нашым краі, ці яна павінна была б самым істотным чынам і неадкладна адысці ад сваіх жыццёва-побытавых і культурных традыцый.

І ўсё ж, як справедліва зазначаецца ў кнізе, вастрыня канфліктаў паміж каталіцызмам, як пануючай рэлігіяй у Рэчы Паспалітай, і татарамі-мусульманамі ніколі не даходзіла да такога ўзроўню, якім ён быў у лацінскага касцёла з праваслаўнай і пратэстанцкай цэрквамі. "Каталіцкія святары, занятыя барацьбой з праваслаўнымі і пратэстантамі, не вялі сістэматычнай кампаніі супроць татар-мусульман, якія не ўяўлялі для іх ніякай небяспекі з прычыны нешматлікасці. (...) Мелі месца толькі асобныя факты фанатызму, абмежаванні (татараў — Л.Л.) у правах, варожыя адносіны з боку значнай часткі шляхты, абумоўленыя агульнай атмасферай рэлігійнай нецярпімасці" (С.68).

Кніга, якую рэцэнзую, істотным чынам дапаўняе беларускую гістарыяграфічную літаратуру і па такіх важных пытаннях, як удел татараў ВКЛ у вайне Рэчы Паспалітай з рускай дзяржавай, у барацьбе з турэцкімі янычарамі, казакамі Багдана Хмяльніцкага, драгунамі шведскага караля. Камандзір татарскага палка Беляк за гераізм у барацьбе з рускім войскам падчас першага падзелу Рэчы

Паспалітай быў менаваны чынам генерал-маёра. Гэта быў першы ў Рэчы Паспалітай татарын з такім высокім званнем. Пазней, у 1790 г. Беляка прызначаюць камандзірам брыгады лёгкай кавалерыі, у склад якой уваходзілі тры татарскія палкі (С.111).

Шмат новага пра ратныя подзвігі беларускіх татараў знойдзе чытач у адным з самых цікавых раздзелаў кнігі "У шэрагах вояў Касцюшкі". Добра пастараліся — і не без поспеху — і ўлады Расійскай імперыі аб прыцягненні беларускіх татараў на вайсковую службу пасля таго, як наш край апынуўся ў складзе гэтай дзяржавы. Сфармаваны у 1797 г. літоўска-татарскі полк "паклаў пачатак рэгулярнай масавай службе літоўскіх татар у расійскай арміі" (С.120). Яму прысвечана некалькі цікавых старонак кнігі. Прыводзяцца і факты вайсковай службы літоўскіх татараў, што пасля падзелу Рэчы Паспалітай апынуліся на тэрыторыі Прусіі і Аўстрыі.

У адрозненне ад многіх гістарычных прац у дадзенай не абыдзена пытанне аб удзеле татараў у войску Напалеона Банапарта ў час вайны з Расіяй у 1812 г., у перыяд паўстанняў 1830-1831 і 1863-1864 гадоў на баку польскіх войскаў. Ва ўсіх гэтых выпадках мела месца і міжусобная барацьба татараў, бо адны з іх былі на баку паўстанцаў, а другія служылі ў расейскім войску.

Істотна пашыраюць нашыя веды па гісторыі Беларусі старонкі кнігі, на якіх вядзецца гаворка аб удзеле татараў нашага краю ў падзеях Першай сусветнай вайны. Тады ў складзе рускай арміі з ліку беларускіх татараў служыла 12 генералаў. Татары высокіх вайсковых чыноў былі актыўна далучаны да ваеннага і дзяржаўна-палітычнага жыцця Крыма і Азербайджана, займалі высокія пасты ў дзяржаўным апараце, у прыватнасці нашыя землякі генерал-лейтэнант Мацей Сулькевіч займаў пост прэм'ера, міністра ўнутраных справаў і галоўнакамандуючага войскамі Крыма, ваенным міністрам быў генерал Аляксандр Мількоўскі, міністрам юстыцыі — Аляксандр Ахматовіч. У Азербайджане Альгерд Крычынскі знаходзіўся на пасадзе віцэ-міністра юстыцыі, яго брат Леон выконваў функцыі дырэктара канцылярыі ўрада (С.142).

Не абмінула беларускіх татараў, што жылі ў міжваенны перыяд у Заходняй Беларусі, і рух за нацыянальна-культурнае адраджэнне. Прысвечаныя гэтым падзеям старонкі кнігі вельмі добра дапаўняюць

нашыя веды аб тагачасным жыцці татараў на тэрыторыі, дзе панавалі польскія парадкі. Адзначаецца, што ўлады Польшчы, глушачы беларускі нацыянальна-культурны рух, даволі спрыяльна ставіліся да духоўна-рэлігійных запатрабаванняў татараў, вылучалі іх на высокія дзяржаўныя пасады. У 1926 г. у час з'езда татарскай інтэлігенцыі ў Вільні ствараецца Культурна-асветніцкі саюз татараў Рэчы Паспалітай. Праз тры гады ў гэтым жа горадзе па ініцыятыве Леона Крычынскага быў створаны невялікі Татарскі нацыянальны архіў. Шкада толькі, што па невядомых прычынах аўтар гэтага раздзела кнігі не палічыў неабходным падрабязна разгледзець дзейнасць дадзеных культурна-асветніцкіх татарскіх асяродкаў, бо звесткі пра іх адсутнічаюць у нашай навуковай літаратуры і публіцыстыцы.

У чытачоў зусім справядлівымі могуць быць прэтэнзіі да аўтараў кнігі за схематычны паказ імі жыцця татараў у міжваеннай Савецкай Беларусі. Пэўныя культурна-адраджэнскія настроі назіраліся тут і ў дадзенай нацыянальнай меншасці, праўда, не ў такой ступені, як у яўрэяў, палякаў ці латышоў. Асабліва ёсць што сказаць пра татараў, якія ў тыя гады станоўча праявілі сябе на розных участках эканамічнага, палітычнага і культурнага жыцця рэспублікі. Шкада таксама, што нічога істотнага мы не знойдзем у кнізе пра лёс беларускіх татараў у гады Другой сусветнай вайны, а ён жа ў іх быў вельмі складаным і небяспечным. Зведаны вялікія страты ў людзях, непапраўная шкода прычынена духоўным каштоўнасцям, што самым адмоўным чынам паўплывала на стан беларускіх татараў у пасляваенны перыяд.

Адступіўшы ад храналагічнага прынцыпу, аўтары кнігі ў яе заключнай частцы падалі вельмі цікавыя і змястоўныя матэрыялы пра развіццё геральдыкі беларускіх татараў, пазнаёмілі чытача з характэрнымі для іх у мінулым і цяпер імёнамі і прозвішчамі, падрабязна разгледзелі сутнасць ісламскай рэлігіі на тэрыторыі нашага краю. Зазначаецца, што продкі нашых татараў прынялі гэтую веру яшчэ тысячу гадоў таму. Спавядаць яе, як даведваемся з кнігі, не заўсёды было вельмі проста. Вінаватыя ў гэтым дзяржаўная ў Рэчы Паспалітай канфесія — каталіцкая. Быў час, што забаранялася не толькі будаваць новыя, але і аднаўляць старыя мячэці. Назіраліся выпадкі пераходу татараў у хрысціянскую рэлігію ці масавая

эміграцыя іх у Турцыю. Пры жаданні чытач можа даведацца з кнігі, дзе і калі былі пабудаваны мячэці на Беларусі. З іх на сёння ў добрым стане захаваўся толькі мусульманскі храм у мястэчку Іўе на Гродзеншчыне (пасля таго, як выйшла ў свет рэцэнзуемая кніга, пачалі дзейнічаць мячэці ў Слоніме, мястэчку Смілавічы на Міншчыне і летам 1997 г. завершыцца рэстаўрацыя мячэці ў Навагрудку — заўв. рэд.).

У сціслай форме, але даволі пераканаўча паказана, што зараз робіцца на Беларусі дзеля нацыянальна-культурнага адраджэння татараў. Ажыццяўляе гэта створанае ў 1991 г. Беларускае рэспубліканскае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб". Цалкам падтрымліваю яе надзвычай важную і для татараў, і для беларусаў прапанову да рэспубліканскіх выдавецтваў распачаць публікацыю кніг аб беларускіх татарах і гістарычных помніках татарскай пісьменнасці на беларускай мове (Кітабаў), бо гэта будзе вельмі садзейнічаць паглыбленню нашых ведаў па гісторыі і культуры роднага краю. Веды ж аб ім будуць больш-менш поўнымі толькі тады, калі мы дасканала вывучым і яго нацыянальныя групы, зразумела, і татарскую.

Выхад у свет кнігі С.Думіна і І.Канапацкага "Беларускія татары: мінулае і сучаснасць" стварае добрыя перадумовы, каб напісаць паводле яе матэрыялаў штосьці падобнае для школьнай моладзі. Не сумняваюся, што кніга па гісторыі беларускіх татараў, выкладзеная даступнай для такога чытача мовай, прыгожа прамастацку аформленая, у аднолькавай ступені выкліча зацікаўленасць да сябе як у татарскіх, так і беларускіх дзяцей. Разглядаемая мной кніга ўяўляе вялікую каштоўнасць для педагогаў, якія выкладаюць гісторыю і культуру Беларусі ў агульнаадукацыйных школах, гімназіях і ліцэях, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах, заслугоўвае быць прачытанай усімі тымі, хто цікавіцца мінулым сваёй Бацькаўшчыны.

*Леанід Лыч*

# *Аяз Ісхакі*

Ведомы цюрска-татарскі нацыянальны дзеяч, пісьменьнік і журналіст Аяз Ісхакі нарадзіўся 23 лютага 1878 года ў сяле Яўшурме, Чыстапольскага павету, Казанскай губэрні. Ягоны бацька быў муллой і паслаў сына для навукі ў мусульманскую духоўную школу. Пасьля сканчэньня духоўнай школы ён паступіў у Казанскую вучыцельскую школу, якую пасьпяхова скончыў у 1903 годзе. З раньняй моладасьці Ісхакі захопліваўся грамадзка-літаратурнай дзейнасьцю. У вучыцельскай школе пад ягоным кіраўніцтвам выходзіў падпольны літаратурны часопіс пад назвай “Тэрракі” (“Прагрэс”). Пасьля сканчэньня вучыцельскай школы Ісхакі быў назначаны настаўнікам у Орэнбурскай духоўнай школе. У гэты час ужо ў поўнай меры выявіліся ягоныя літаратурныя здольнасьці. Бэлетрыстычныя творы маладога пісьменьніка ахвотна друкаваліся ў салідных журналах таго часу.

Перад рэвалюцыяй 1905 году сярод Цюрка-Татараў праводзіла вялікую рэвалюцыйную дзейнасьць нелегальная арганізацыя пад назвай “Хуррыят” (“Свабода”), якая па сваей праграме была блізкай да партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. “Хуррыят” выдавала газэту й мела свае аддзелы ў Крыме, Туркестане Каўказе й Сібіры. Аяз Ісхакі ўступіў у гэтую арганізацыю і прыймаў актыўны ўдзел у выдаваньні й распаўсюджваньні газэты. У той час у цэлай Расеі выдавалася толькі адна легальная газэта на татарскай мове ў Крыме.

Пасьля ведамага царскага маніфэсту 17 кастрычніка 1905 году паўстала магчымасьць шырокай нацыянальна-асьветнай дзейнасьці сярод цюрска-татарскага насельніцтва. На татарскай мове ў Казані пачала выдавацца газэта “Тан” (“Зара”). У гэты час Ісхакі быў ужо добра ведамы сярод свайго народу як буйны палітычны дзеяч і пісьменьнік. У нацыянальна-палітычнай дзейнасьці ён праявіў сябе на гэтулькі, што перад выбарамі ў другую Дзяржаўную Думу цюрска-татарскія арганізацыі выставілі ягоную кандыдатуру для правядзеньня сябрам Думы. Між тым царская ахранка зырка сачыла за бурлівай дзейнасьцю Ісхакі і дзеля таго, каб пазбавіць магчымасьці ўдзелу ў выбарах у Думу, Ісхакі быў арыштаваны. У 1907 годзе ён быў высланы ў адміністрацыйным парадку ў

Архангельскую губэрню ў горад Пінегу тэрмінам на тры гады. На другім годзе ссылкі Ісхакі ўцёк і нелегальна пражываў у Пецярбургу. Там ён зьвязаўся зь цюрска-татарскімі рэвалюцыйнымі арганізацыямі, прыймаючы актыўны ўдзел у іхнай дзейнасьці. З 1910 па 1912 год Ісхакі два разы нелегальна параязджаў у Турцыю, дзе працаваў, як журналіст. Вярнуўшыся ў Пецярбург, яму ўдалося два гады наведваць унівэрсытэт (юрыдычны факультэт), адначасна будучы рэдактарам рэвалюцыйна-нацыянальнага журналу.

У 1913 годзе дзейнасьць Ісхакі была перарваная: царская ахранка прасачыла яго, і ён быў арыштаваны. Пасьля доўгага ўвязьненьня ў катаржнай турме з суровым рэжымам ён быў узноў высланы ў Архантельск.

Як уцёкшага з ссылкі, губэрнатар меў права пасадзіць у турму. Турма была яму замененая ссылкай на тры гады ў больш суровых умовах на беразе Ледавітага акіяну ў Мезені. У сувязі з 300-годзьдзем дому Раманавых Ісхакі быў із ссылкі зволънены ў 1914 годзе. У Казані яму ня было дазволена пасяліцца, і ён прымушаны быў перайсьці на нелегальнае палажэньне і выехаць у Пецярбург, дзе быў рэдактарам газэты "Іль" ("Краіна"). Аднак суровыя цэнзурныя перасьледваньні, якія ўзмацніліся ў сувязі з вайной, прымусілі спыніць выдаваньне газэты ў Пецярбургу і перанесьці дзейнасьць у Маскву.

У 1917 годзе Ісхакі быў сябрам Нацыянальнага Сабраньня. Месцам сталай дзейнасьці быў выбраны горад Уфа. Нацыянальнае Сабраньне апрацавала й статут (праект канстытуцыі) Ідэль-Уральскай рэспублікі. Ісхакі быў выбраны ад Цюрка-Татараў у Нацыянальнае Сабраньне. Пасьля захопу ўлады бальшавікамі на падставе пастановы Нацыянальнага Сабраньня ён быў дэлегаваны ад Ідэль-Уральскай рэспублікі ў Вэрсаль на мірную канфэрэнцыю, куды ён прабіраўся нелегальна быццам чэскі легіянэр.

Ад часу Вэрсальскага кангрэсу Аяз Ісхакі знаходзіцца на эміграцыі, так як бальшавікі яшчэ ў 1918 годзе вынесьлі яму завочна сьмяротны прысуд. Два гады пражыў Ісхакі ў Парыжы, бесьперапынна ведучы дзейнасьць сярод сваіх суродзічаў, пасьля чаго перанёс сваю дзейнасьць у Бэрлін, дзе прабываў да 1925 году. Тады ён быў запрошаны ў Турэччыну ў якасьці рэдактара турэцкага журналу

'Туркюрду" (паводля ня зусім дакладнага перакладу — "Турэцкі дом"). Пазьней Ісхакі пераехаў у Варшаву, куды ен быў запрошаны ў якасьці прафэсара турэцкай мовы ў Усходнім Інстытуце. Адначасна Ісхакі быў галоўным рэдактарам цюрска-татарскага журналу "Мілію" ("Нацыянальны Шлях"). З палітычных меркаваньняў журнал выдаваўся ў Бэрліне.

У 1931 годзе Ісхакі пераехаў у Эгіпт, потым прыймаў удзел у сусьветным кангрэсе мусулманаў у Ерузаліме, дзе быў выбраны сябрам камітэту. Дзеля змаганьня з бальшавізмам ён аб'ехаў шмат краінаў Блізкага Усходу, а ў 1933 годзе выехаў на Далекі Усход з мэтаю правядзеньня арганізацыйнай работы сярод мусулманскага насельніцтва. На гэтай працы ен быў заняты два з палавінаю гады, аб'яжджаючы Манголію, Кітай, Карэю, Манджурыю й Японію.

У 1936 годзе Ісхакі вярнуўся ў Варшаву, дзе й прабыў да пачатку наступленьня нямецкай арміі ў 1939 годзе. З Польшчы Ісхакі пераехаў у Турэччыну й пасяліўся ў Істамбуле, дзе, ня гледзячы на свой век, прадаўжае займацца палітычнай дзейнасьцю. Праўда, у 1940 годзе ен быў запрошаны фінскім урадам для працы сярод ваеннапалонных мусулман чырвонай арміі. Аднак зь Лёндану яму прыйшлося вярнуцца ў Турэччыну, так як у гэтым часе між Фінляндыяй і Савецкім Саюзам быў падпісаны мірны дагавор.

Выдатны палітычны дзеяч і пісьменьнік, сын татарскага народу, Аяз Ісхакі карыстаеццавялікім аўтарытэтам: ня толькі сярод эмігрантаў Цюрка-Татараў, але й сярод іншых нацыянальнасьцяў. У вадказны пэрыяд задзіночаньня паняволеных бальшавізмам нацыянальнасьцяў на эміграцыі дзеля стварэньня адзінага фронту змаганьня з балыпавізмам Аяз Ісхакі, як старшыня Ідэль-Уральскага Нацыянальнага Камітэту, які задзіночвае Цюрка-Татараў у цэлым сьвеце, прыбыў зь Істамбулу ў Мюнхэн. Сярод удзелыгікаў Парыскага Блёку Ісхакі спаткаў многіх старых нацыянальных дзеячоў супольнага змаганьня з царызмам. Аяз Ісхакі зьяўляецца гарачым прыхільнікам задзіночаньня нацыянальнасьцяў, паняволеных бальшавізмам, дзеля супольнага змаганьня.

*В.Б.*

ЗМАГАНЬНЕ НАРОДАЎ ІДЭЛЬ-УРАЛУ

Народы цюрска-татарскага паходжаньня, што насяляюць басэйн ракі Волгі (пататарску — Ідэль) і схілы Уральскіх гораў, ведамыя пад супольнай геаграфічнай назвай Ідэл-Урал. Гэтая назва была прынятая пастановаю Нацыянальнага Сабраньня гэтых народаў у лістападзе 1917 году ў горадзе Уфе.

Продкамі народаў Ідэль-Уралу ўважаюцца Балгары, або Булгары, народ цюрскага паходжаньня, які знаходзіўся ўжо ў 5 стагодзьдзі на прасторах Чорнаморскіх стэпаў. Калі новыя хвалі цюрскіх плямён нахлынулі з Алтаю, Балгары разьбіліся на паасобныя групы. Галоўная і найбольш колькасная група Балгараў перакачавала на поўнач і асела на Каме й Волзе. З гэтых разьдзеленых груп стварылася Балгарскае ханства. Да 922 году Балгары былі паганамі, пасьля чаго прынялі іслям. У пачатку ХШ стагодзьдзя балгарскае ханства перастала самастойна існаваць і падпала пад панаваньне Залатой Орды. Хаця Залатая Орда была створаная Манголамі, але ў ёй Манголамі былі толькі ханы і часьць арыстакрацыі. Аснаўная маса складалася з Балгараў, Хазараў, Кіпчакоў і іншых Цюркаў. На тэрыторыі былага Балгарскага ханства ў 1437 годзе было створанае Казанскае ханства. Аснавальнікам ханства быў Улуг-Мухамэд з роду Тахтамыш-Хана. Зь першых год свайго існаваньня гэтае ханства становіцца ўва ўсіх дачыненьнях моцнай дзяржавай.

Існаваньне сільнага Казанскага ханства не падабалася Маскве. Яна ўсімі спосабамі старалася аслабіць ягоную магутнасьць. За час свайго існаваньня Казанскае ханства ваявала з Масквой 25 разоў, ня лічучы малых сутычак. 15 кастрычніка 1552 году, пасьля вялікай і крывавай бойкі, Казань быў апанаваны расейскімі войскамі і перайшоў пад уладу цара Івана Грознага. Часьць цюрска-татарскага насельніцтва, якая ўцалела ад пагрому, вынішчэньня і ўвязьненьня, была высланая з Казані. На адлегласьці 30 км ад Казані Цюрка-Татарам не дазволена было сяліцца. На чале краіны быў пастаўлены намесьнік цара, а ў 1555 годзе ўстаноўленая была праваслаўная епархія на чале зь япіскапам Гурыем для хрысьціянізацыі насельніцтва. Адначасна ўзмоцнена праводзілася й калянізацыя краю, у першую чаргу Казань. У 1593 годзе на стараньне япіскапа Гермогена загадам расейскага цара Федара Іванавіча ўва ўсім краі

былі развалены мэчэты і школы пры іх. Аднак ужо ў пачатку XVII ст. Масква пераканалася ў немагчымасьці сілаю аружжа пакарыць край. Вось чаму ў 1613 годзе на Земскі Сабор ў Маскве для выбару цара пасьля сканчэньня дынастыі Рурыка былі запрошаныя й прадстаўнікі Казанскага ханства. Гэтыя прадстаўнікі высоўвалі на маскоўскі трон некалькі асоб з роду казанскіх ханаў. У грамаце, зацьверджанай Саборам, знаходзіцца сем подпісаў казанскіх князеў і мурзаў, якія падпісалі грамату ад імя Казанскага ханства. У тыя часы Масква ўсімі сіламі імкнулася перацягнуць на свой бок цюрска-татарскіх князёў і мурзаў. Аднак калі ўспыхнула паўстаньне Разіна, усё цюрска-татарскае насельніцтва было на баку паўстаўшых.

Заваяваньне Расейцамі Туркестану і тарнаваньне там заваявальных мэтадаў, якія тарнаваліся і ў Ідэль-Урале, разьвіло новую ідэялёгію ў сьведамасьці перадавой часьці Цюрка-Татараў. Гэтая ідэялёгія заключалася ў тым, што трэба арыентавацца на Эўропу дзеля прысваеньня эўрапэйскай культуры, адкінуўшы варожыя дачыненьні да усяго нямусулманскага. У гэтым дачыненьні адыйграў вялікую ролю Шыгабедзін Мерджані (1815-1889), Каюм Насары і асабліва Ісмаіл-Бэй Гаспрынскі (1853-1914). Гэтыя дзеячы пасьлядоўна прапагандавалі ідэю вывучэньня гісторыі свайго народу, увядзеньня роднае мовы ў школах і быце ў проціўвагу мове арабскай і пэрскай, арганізацыі друку на роднай цюрска-татарскай мове. Перадавыя дзеячы змагаліся супраць схалястычных мэтадаў працы мусулманскіх школаў і ізаляцыі жанчынаў. Каюм Насыр выдае першы каляндар на цюрска-татарскай мове, які замяняў пэрыядычны друк, так як царская ўлада забараняла выдаваць газэты і журналы на роднай мове. Толькі ў 1883 годзе Ісмаілу Бэю Гаспрынскаму ўдалося атрымаць дазвол на выпуск першай газэты ў роднай мове пад назвай “Церджуман” (“Перакладнік”). Гэтая газэта адыйграла вялікую ролю ў грамадзка-палітычным жыцьці ўсіх цюрскіх нацыянальнасьцяў Расеі. Аснаўным заданьнем “Церджумана” было выхаваньне ўсіх Цюркаў у духу адзінства, бяз розьніцы племя, роду й тэрыторыі.

Пасьля 1905 году наступіла адносная свабода друку й слова. Цюрска-татарская інтэлігенцыя разгарнула калясальную дзейнасьць у кірунку задзіночаньня Цюркаў. Першы й другі мусулманскія зьезды ў Ніжным Ноўгарадзе былі арганізаваныя ў вагульнацюрскім

маштабе, ня гледзячы на розныя палітычныя перакананьні і нават партыйную прыналежнасьць удзельнікаў.

У часе расейска-японскай вайны вялікую палітычную дзейнасьць праводзіла нелегальная палітычная партыя “Хуррыят” (“Свабода”). У выніку інтэнсыўнай нацыянальна-палітычнай дзейнасьці ў Дзяржаўнай Думе была створаная адналітая фракцыя з 40 дэпутатаў, якая з тактычных меркаваньняў называлася мусулманскай, а ня цюркскай.

Наступіўшая рэакцыя ў значнай меры абмежавала актыўнае палітычнае жыцьцё тюрска-татарскага народу. У 4 Дзяржаўнай Думе было ўжо толькі 7 цюрска-татарскіх дэпутатаў. Аднак меры рэакцыі не маглі ўжо спыніць палітычнай і культурнай дзейнасьці народу. Рэакцыя прынесла мімаволі й карысьць, якая выявілася ў тым, што бальшыня палітычных партыяў заглохла. На месца партыяў з рознымі праграмамі й няўхільным між імі змаганьнем стварыўся адзін нацыянальны цэнтр, які й кіраваў нацыянальным жыцьцём. Падчас вайны афіцыяльным органам гэтага цэнтру было бюро пры мусулманскай фракцыі Дзяржаўнай Думы.

У рэвалюцыі 1917 году Цюрка-Татары прынялі актыўны ўдзел, выступаючы кампактнай масай. Летам 1917 году, у выніку агульнага нацыянальнага пад’ёму, у Казані адбываліся адначасна тры кангрэсы: 1) грамадзка-палітычных дзеячоў, 2) духавенства і 3) былых ваенных царскай арміі. 4 жніўня яны зарганізавалі злучанае паседжаньне й абвесьцілі нацыянальна-культурную аўтаномію Волжскіх Татараў. Із шчыту гістарычнай вежы царыцы Сюем-Бэка быў скінуты двухгаловы арол — сымбаль векавога прыгнечаньня нашага народу. На месца двухгаловага арла быў узьняты сымбаль нацыянальнай свабоды. На гэтым злучаным паседжаньні была вынесеная пастанова правесьці выбары ў Нацыянальнае Сабраньне ўсіх Цюрка-Татараў Ідэль-Уралу.

Былы дэпутат Дзяржаўнай Думы Садры Масудзі Бэй таленавіта арганізаваў і правёў адначасна выбары дэпутатаў у Установчае Сабраньне і нацыянальных прадстаўнікоў у Нацыянальнае Сабраньне, у якое было выбрана 110 дэпутатаў. У лістападзе 1917 году пачало сваю працу Нацыянальнае Сабраньне ў горадзе Уфе. Духоўны цэнтр далажыў Нацыянальнаму Сабраньню, што ў губэрнях Ідэль-Уралу ў 8200 рэлігійных прыходах паводля мэтрычных запісаў пражывае

звыш 8 мільёнаў Цюрка-Татараў. Нацыянальнае Сабраньне выбрала Часовы Урад Рэспублікі, які быў асновай урадавага апарату, якому было даручана апрацаваць праект канстытуцыі Ідэль-Уралу.

Але ў пачатку красавіка 1918 году бальшавікі вялікімі сіламі раптам пачалі акупаваць тэрыторыю Ідэль-Уралу. Ня гледзячы на наяўнасьць многіх палкоў, яны не маглі абараняць маладой рэспублікі, бо ня мелі аружжа. Бальшавікі адзіны наш цюрска-татарскі народ у сваіх інтарэсах падзялілі на сераднявечныя плямёны й стварылі "аўтаномныя" рэспублікі й акругі: Татарскую, Башкірскую, Чувaскую, Мардоўскую, Марыйскую і Удмурскую. Дзеля таго, каб аслабіць ідэю стварэньня небясьпечнай 25-мільённай рэспублікі, бальшавікі жанглявалі хвальшывымі статыстычнымі дадзенымі аб колькасьці Татараў, паказваючы іх у колькасьці 4,5 мільёнаў, замест запраўдных 10 мільенаў чалавек. Рад губэрняў з татарскім насельніцтвам уключылі ў склад РСФСР і пачалі прымусова перасяляць карэнных жыхароў у іншыя краіны. Дзеля зьмены этнаграфічнага твару краіны ў цэлым СССР праводзіцца штучнае перасяленьне насельніцтва, у выніку чаго звыш 5 мільёнаў Цюрка-Татараў сталіся бяздомнымі бадзякамі.

## ЭМІГРАЦЫЯ ІДЭЛЬ-УРАЛЬЦАЎ

Эміграцыя Цюрка-Татараў даўняга паходжаньня, яна пачалася пасьля заваяваньня Казанскага ханства царом Іванам Грозным. На працягу ўсяго гэтага часу нацыянальныя цэнтры былі вымушаныя хапацца ўсякіх тактычных спосабаў дзеля захаваньня сваей нацыянальнай эгзыстэнцыі. Гэтак, каб захаваць свае лепшыя нацыянальныя сілы, нацыянальныя цэнтры прымушалі іх у цяжкія часы эміграваць у Турэччыну, на Далёкі Усход і ў мусулманскія правінцыі Індыі. Прыходзілася хапацца й такога спосабу, каб нацыянальна стойкіх асоб прапіхаць у васяродзьдзе расейскага чыноўніцтва. Гэтак расейскі цар Барыс Гадуноў дайшоў да царскага пасаду й выратаваў Цюрка-Татараў ад выміраньня адкліканьнем закону аб г. зв. "ясачных Татарах". Ня прыпадкова адзін з татарскіх паэтаў пісаў: "О, Аллах! Толькі месяц і сонца бачаць службу нашых сыноў свайму народу !"...

Цяперака на эміграцыі знаходзяцца сотні тысячаў Цюрка-Татараў, якія зьяўляюцца раскінутымі па цэлым сьвеце. Многія ўжо

радзіліся й вырасьлі ў цяжкіх умовах эміграцыйнага бадзяньня. Падчас першай сусьветнай вайны мнагалюдныя цюрска-татарскія асяродзьдзі ў раёнах Мэккі й Мэдыны былі разгромленыя арабскімі паўстанцамі. У тыя дні, паўстаўшыя супраць Турэччыны Арабы, патрабавалі ад кіраўніка эміграцыйнага асяродзьдзя Гомяр Бэя, каб эмігранты Цюрка-Татары далі прысягу вернасьці новым уладам. Гомяр Бэй адказаў: “Мы пакінулі бацькаўшчыну, ратуючыся ад свайго крывавага ворага, каб захаваць нацыянальнае быцьцё, мы хочам і надалей астацца цюрска-татарскімі эмігрантамі і ў вашыя нутраныя справы ня хочам умешвацца!” За гэты справядлівы адказ ен быў кінуты ў пустую студню, у якой аставаўся некалькі дзён бязь ежы. Выратавалі яго паўстанцы. У 1945-1946 гадох камуністамі былі разгромленыя нашыя асяродзьдзі ў Манджурыі. Там звыш 10.000 Цюрка-Татараў былі выданыя Саветам. Нашыя эміганцкія асяродзьдзі ў Японіі і Фінляндыі маюць собскія школы, мэчэты, выдавецтвы. У сілу асаблівасьцяў законадаўства ў Турэччыне, дзе знаходзіцца наш нацыянальны цэнтр і вялікія асяродзьдзі, мы пазбаўленыя магчымасьцяў арганізаваць і праводзіць палітычную дзейнасьць, абмяжоўваючыся да дзейнасьці культурнай і дабрадзейнай. У далёкай Японіі да капітуляцыі не рабіліся ніякія перашкоды для дзейнасьці цюрска-татарскай эміграцыі.

Актыўная часьць цюрска-татарскай эміграцыі, даведаўшыся аб стварэньні Парыскага Блёку з 6-ці нацыянальнасьцяў, патрабавала ад цюрска-татарскага цэнтру безадкладнага ўступленьня ў гэты Блёк для супольнага змаганьня з камунізмам. Мы Ідэль-Уральцы ўважаем, што першы маральна здаровы голас розуму быў пададзены лідэрамі старэйшых нацыянальных цэнтраў у васобах прадстаўнікоў Беларусі, Украіны, Армэніі, Паўночнага Каўказу, Грузіі й Азэрбайджану, вылажаны ў ведамым Мэмарандуме Парыскага Блёку на імя Амэрыканскага Камітэту. Мы так-жа будзем падтрымліваць пляцформу, выпрацаваную ў праэкце статуту “Міжнацыянальнага Антыбальшавіцкага Каардынацыйнага Цэнтру” сябрамі камісіі з прадстаўнікоў шасьці арганізацыяў старога КЦАБ-у і з прадстаўнікоў нацыянальных цэнтраў ПарыскагаБлёку.

*Аяз Ісхакі і Г.Гасан.*

Друкуецца паводле: “Бацькаўшчына”, Мюнхэн, 1953, № 31-32 (162-163)

# ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ТАТАРАЎ

БРЫЛЬ Янка (Іван, сын Настассі Іванаўны з Чычукоў і Антона Данілавіча; нар. 4.8.1917, Адэса), беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік Беларусі (1981 г.). У 1922 г. з бацькамі вярнуўся ў Зах. Беларусь у в. Загор'е Стаўбцоўскага пав. (цяпер Карэліцкі раён). Скончыў польскую сямігодку ў мястэчку Турэц. З 1939 г. служыў у польскай арміі. У верасні 1939 г. трапіў у нямецкі палон, адкуль увосень 1941 г. уцёк на радзіму. Удзельнік партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. З сакавіка 1944 г. супрацоўнічаў у газеце "Сцяг свабоды", органе Мірскага падпольнага РК КП(б)Б. Пасля вызвалення Мірскага раёна працаваў рэдактарам раённай газеты, літаратурным супрацоўнікам газеты-плаката "Раздавім фашысцкую гадзіну". З кастрычніка 1944 г. ў Менску; працаваў у часопісе "Вожык", Дзяржаўным выдавецтве БССР, намеснікам рэдактара часопіса "Маладосць", "Полымя". У 1966-1971 гады сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Першы зборнік "Апавяданні" (1946 г.). У пасляваенных творах пісьменнік асэнсоўваў праблемы развіцця заходнебеларускай вёскі, распрацоўваў тэмы вайны, акупацыі, станаўлення фашызму: зборнік "Нёманскія казакі" (1947 г.), "Верасьнёвая рунь" (1949 г.), аповесць "У Забалоцці днее" (1950 г., Сталінская прэмія 1952 г.), "Надпіс на трубе" (1958 г.), зборнік "На Быстранцы" (1955 г.), "Мой родны кут" (1959 г.), "Працяг размовы" (1962 г., Літаратурная прэмія імя Я.Коласа 1963 г.). Пісаў нарысы пра жыццё і дзейнасць удзельнікаў заходнебеларускага падполля П.Жалезняковіча і Р.Сяржанта, паэта В.Таўлая. Адным з першых увёў у беларускую ваенную прозу тэму духоўных каштоўнасцей і праблему выбару (раман "Птушкі і гнёзды", 1963 г.). Ідэйна-эстэтычную вяршыню прозы Я.Брыля складаюць творы, у цэнтры якіх філасофскае абаснаванне сучаснай гісторыі, пошукі духоўных каранёў і маральных устоеў быцця героя, грамадскага прызвання мастака (аповесці "Ніжнія Байдуны", 1975 г.; "Золак, убачаны здалёк", 1978 г., Дзяржаўная прэмія БССР імя Я.Коласа 1982 г., і іншыя). Пісьменнік суадносіць гісторыю з побытам, грамадства з індывідам, дзяржаву з сям'ёй, прасочвае дэфармацыі светаўспрымання ў маладых удзельникаў вялікіх гістарычных падзей. Лічыць літаратуру часткай нацыянальнай, сацыяльнай і гуманістычнай свядомасці народа, сродкам памнажэння

і перадачы з пакалення ў пакаленне патрыятычных, маральна-этычных і эстэтычных ідэалаў. Праўдзівасць у адлюстраванні жыцця, заглыбленасць ў грамадскія працэсы і духоўны свет асобы надае яго творам грунтоўнасць і глыбокую пазнавальнасць. Адзін з аўтараў (з А.Адамовічам і У.Калеснікам) кнігі "Я з вогненнай вёскі..." (1975 г.), у якой сабраны сведчанні людзей, што выпадкова выратаваліся ў час знішчэння нямецка-фашысцкімі захопнікамі жыхароў беларускіх вёсак. Я.Брыль выступае ў друку па пытаннях літаратуры і літаратурнага жыцця (зборнік артыкулаў "Роздум і слова", 1963 г., "Трохі пра вечнае", 1978 г., і іншыя). Піша для дзяцей. Пераклаў на беларускую мову паасобныя творы Л.Талстога, А.Чэхава, М.Горкага, Э.Ажэшкі, М.Канапніцкай, А.Вішні, А.Даўжэнкі, Я.Івашкевіча і інш. Творы Я.Брыля перакладзены на многія мовы народаў свету. Быў старшынёй Беларускага аддзялення таварыства "СССР - Канада". Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1963-1967, 1980-1985 гады.

*У.А.Калеснік*

***

КІРЫМАЛЬ (сапр. Шынкевіч) Эдыге (1911, Бахчысарай у Крыме — 23.06.1980), татарскі вучоны і грамадскі дзеяч. Сын беларускага татарына Мустафы. Пачатковую школу скончыў у Дэрэкю, непадалёку ад Ялты, сярэднюю адукацыю атрымаў у Ялце. Працягваў вучобу ў Ак-Мячэці (Сімферопалі) у Педагагічным інстытуце. У 1928 г., пасля забойства бальшавікамі старшыні СНК Крымскай АССР Велі Ібрагімава ўзмацніўся праслед, арышты і тэрор сярод крымскататарскай інтэлігенцыі і студэнцкай моладзі. У гэтай сітуацыі Эдыге, які крочыў у першых шэрагах народнага руху, падаўся ў Азербайджан, а адтуль яму дапамаглі сябры перайсці граніцу Персіі (Ірана). У 1932 г. ён пераехаў у Стамбул, а ў 1934 г. выехаў да бацькавай радні ў Польшчы. У Вільні завершыў вучобу, скончыў у 1939 г. універсітэт, факультэт палітычных навук.

У час вучобы ў Вільні займаўся вывучэннем праблем крымскататарскага народа, татараў Польшчы. У 1939 г. выехаў у Берлін, а адтуль у Стамбул. У лістападзе 1943 г. Кірымаль пабываў у Крыме. Пасля вайны займаўся праблемамі крымскататарскіх бежанцаў. У Мюнхене абараніў доктарскую працу, якая была надрукавана ў выглядзе манаграфіі пад назвай "Нацыянальная барацьба крымскіх цюркаў" (1952 г.). У наступныя гады працягваў

дзейнасць як прадстаўнік Крымскага цэнтра ў Мюнхенскім інстытуце даследванняў Савецкага Саюза і ў Парыжскім блоку. У 1972 г. выконваў функцыі галоўнага рэдактара часопіса "Дэргі", які выдаваў Мюнхенскі інстытут на турэцкай мове. У гэтым часопісе Кірымаль апублікаваў шмат артыкулаў і інфармацый па крымскататарскай тэматыцы і іншых цюркскіх народаў.

*Сабры Арыкан*

***

САРАЦЫНЫ (лац. saracenі < грэч., ар.), негатыўная назва мусульманаў у сярэднявечных заходнееўрапейскіх крыніцах. Аміян Марцэлін, рымскі гісторык грэчаскага паходжання (IV ст.), згадваў "Сарацыны". як адно з арабскіх плямёнаў на ПнЗ Аравійскай пустыні. Паступова тэрмін "сарацыны" пачалі ўжываць у заходняй літаратуры для абазначэння спачатку ўсіх арабаў, потым мусульманаў увогуле, а часам у шырокім сэнсе ўсіх некаталікоў. Тэрмін быў вядомы і на Русі ("Моамеда, жреца срачиньского" згадваў каля 1107 чарнігаўскі ігумен Данііл), ён набыў шырокае распаўсюджанне ў сувязі з крыжовымі паходамі. З канца XII ст. яго этымалогію звязвалі з імём курдскага палкаводца, султана Егіпта Саладзіна (Салах-эд-Дзіна), які у 1187-1192 узначальваў супраціўленне мусульманскіх дзяржаў Блізкага Усходу крыжакам.

У экзальтаванай свядомасці заходнееўрапейскага духавенства і рыцарства, якія лічылі каталіцкую Зах. Еўропу акружанай адзіным фронтам нехрысціянскіх дзяржаў — ад мусульманскай Іспаніі і Блізкага Усходу да Літвы і Русі, "сарацынскай" дзяржавай уяўлялася і ВКЛ. Такія аблуды умела падтрымліваліся крыжацкай прапагандай для абгрунтавання "маральнага права" на агрэсію супраць ВКЛ, асабліва у канцы XIV ст., калі пасля разгрому Тахтамыша Цімурам (Тамерланам) тут знайшла прытулак значная частка татараў. Храніст і паэт, ідэёлаг французскага рыцарства Жан Фруасар, апісваючы падрыхтоўку да крыжовага паходу супраць турэцкага султана Баязіда, які скончыўся трагічным паражэннем хрысціянскай арміі пад Нікапалем у 1396, пісаў, што "Баязід і Каліф паслалі да некалькіх сарацынскіх каралёў — у Персію, Мідзію, Татарыю і нават у Літву на мяжы з Прусіяй". Англійскі храніст канца XIV ст., манах абатства Сент-Олбанс Томас Уолсінгэм таксама лічыў "караля Літвы" Вітаўта "сарацынскім уладыкам" накшталт султанаў "Вавілоніі", Турцыі і татарскіх ханаў: "Гэты кароль Літвы павярнуўся

ў веру хрысціянскую з нагоды шчаслівай перамогі, дараванай яму небам, разам з 60 тыс. людзей сваей секты, якія ў знак веры накладаюць на зброю белы плашч і прышываюць на тых шатах крыж чырвонага колеру". У свядомасці Уолсінгэма вычварна спляліся самыя розныя падзеі: хрышчэнне Літвы, разгром Баязіда Тамерланам у 1402 і бітва на Ворскле ў 1399. Пасля Вялікай вайны 1409-1411 частата сустракаемасці тэрміну "сарацыны" у дачыненні да Літвы рэзка скарачаецца, але яшчэ у 1420-х, калі Вітаўта абвінавачвалі ў патаемным супрацоўніцтве з асманамі, баварскі храніст Ульрых фон Рыхенталь называў Вітаўта "herzog zu Sarasio".

Літ.: Piekosinski F. Gosci polscy na soborze Konstancyiskim // Rozprawy Akademii umiejetnosci. Wydzial historyczno-filozoficzny. Ser. II, T. 12 (37). Krakow, 1899; Zins H. Polska w oczach anglikow. Warszawa, 1974; Белы А. Пад крыжом Св. Георгія // Падарожнік. № 2, 1996.

*Алесь Белы*

***

СУЛЬКЕВІЧ Аляксандр (1867, фальварк Скірасаболі Татарскія каля Сувалак у Польшчы — 18.9.1916), сацыял-дэмакрат і актыўны змагар за незалежнасць Польшчы. Паходзіў з эліты роду Ялаіраў, якія пасяліліся ў ВКЛ у 15 ст. Яго бацька Аляксандр, ротмістр расійскай арміі, маці — Разалія з Крычынскіх, з гаспадарскіх (вялікакняжацкіх татараў), выхоўвалася ў традыцыях мусульманскай вайсковай сям'і, пляменніца ўдзельніка паўстання 1863 г. Пасля завяршэння вучобы ў 1884 г. А.Сулькевіч працаваў фінансістам у Сувалках, затым у мытні ў Владыславове (цяпер Кудзіркас Наўмесціс у Летуве) і Кімбартаі. Як член партыі "Пралетарыят" ("Proletariat") у 1887 г. інтэнсіўна працаваў па дастаўцы з замежжа нелягальнай сацыялістычнай прэсы, якая прывозілася з Лондана праз Кёнігсберг у Вільню, а затым распаўсюджвалася ў расійскіх губернях. На працягу 15 гадоў з яго дапамогай дастаўляліся тыпаграфскія матэрыялы і нават друкарскія станкі для выдання нелегальнай літаратуры.

У Парыжы А.Сулькевіч разам са Станіславам Мэндэльсонам, Вікрарам Ёдкам, Фэліксам Пэрлам і Юзафам Пілсудскім і іншымі быў заснавальнікам ППС — Польскай сацыялістычнай партыі (21.11.1892 г.). З гэтай групы ён адзін, хто вярнуўся ў Рускую Польшчу. Пасля арышту і дазнання ў 1900 г. быў зволены з працы ў мытні (жандармы не знайшлі доказаў яго падпольнай дзейнасці).

Разгром падпольнай арганізацыі ў 1901 г. вымусіў Чорнага Міхала (пасля пад такім псеўданімам ён атрымаў вядомасць у сацыялдэмакратаў) займацца дастаўкай падпольнай літаратуры, уладкоўваць тыпаграфію газеты "Работнік", займацца работай са студэнцкай моладдзю, нават у Лясным інстытуце каля Санкт-Пецярбургу. Дзякуючы добраму веданню людзей і канспірацыйнай работы яму ўдалося арганізаваць уцёк Ю.Пілсудскага з турэмнага шпіталя ў Пецярбургу, а пасля перамяшчэнне яго ў Аўстра-Венгрыю.

Пазней А.Сулькевіч некалькі гадоў займаўся нелегальным друкам ППС у Кіеве. У час Рэвалюцыі 1905 г. дастаўляў зброю для баявых арганізацый у Варшаве, Чанстахове, Радаме. Пасля рэвалюцыі ён вымушаны быў пераехаць у Аўстра-Венгрыю. На з'ездзе ў Вене ў 1906 г. разам з Ю.Пілсудскім А.Сулькевіч перайшоў у Рэвалюцыйную фракцыю ППС, якая ўзяла кірунак на збройную барацьбу за незалежнасць Польшчы. У 1906-1908 гадах Сулькевіч разам з Пілсудскім, Ёдкам, Прысторам, Васілеўскім, Арцішэўскім, Слаўкам, Саснкоўскім і Дамбкоўскім выкладаў у так званых баявых школах, якія рыхтавалі інструктараў і афіцэраў. З Кракава і далей кіраваў перапраўкай нелегальнай прэсы і зброі. Адтуль у 1914 г. разам з вайсковай адзінкай стралкоў увайшоў у Мяхоў і быў адным з заснавальнікаў Польскай Народнай Арганізацыі ў Лодзінскім павеце. Пасля няўдачы збройнага чыну перабраўся цераз фронт і дзейнічаў у Варшаве, а адтуль германскія ўлады ўвосень 1915 г. выгналі яго ў Аўстра-Венгрыю. З канца 1915 г. як дабраволец служыў у Польскіх легіёнах, да красавіка 1916 г. ваяваў супраць расійскай арміі на фронце ў Галіцыі. Загінуў у баі, ратуючы параненага афіцэра.

Шматгадовая дзейнасць за свабоду і незалежнасць Польшчы, гераічная смерць А.Сулькевіча мела неспадзяваны эпілог і яго перазахаванне 8.11.1935 г. на Вайсковых могілках Павонзкі ў Варшаве. Хавалі яго па генеральскаму цэрыманіялу. Труну А.Сулькевіча Крыжам Віртуці Мілітары ўдэкараваў Генеральны інспектар збройых сіл генерал Рыдз Сміглы. Пахароны мелі характар дзяржаўнай урачыстасці, спалучанай з навуковым дакладам пра яго дзейнасць у заваяванні вольнасці і незалежнасці Польшчы.

*Ян Тышкевіч*

***

## Хто такія ліпкі?

Ліпкі, татары — "ліпкі", этнаграфічная група татараў на ўкраінскіх землях ВКЛ (Валынь і Падолле і ў Малдове. Пасля разгрому Тахтамыша Цімурам (Тамерланам) у 1391-1399 гадах значная частка татараў знайшла прытулак у суседніх краінах - у Малдове, Валахіі, Літве і Маскоўскай дзяржаве. Тыя татары, што жылі ў Малдове і ў Вялікім княстве, па сутнасці, уяўлялі сабою адзіную этнічную групу, і часта этнонім "ліпкі" ўжываўся ў дачыненні да ўсіх бел. - літ. татараў (магчыма, паходзіў ад тур. "лубка татар" — літ. татары.

У 1672 пад уздзеяннем асманскай прапаганды татары, якія жылі на Падоллі і Валыні, учынілі бунт супраць польскіх уладаў. Але ўласна беларуска-літоўскія татары засталіся верныя Рэчы Паспалітай, у тым ліку ўдзельнічалі на яе баку ў Хоцінскай бітве. Пасля заняцця Бара (1674) Сабескі абвесціў амністыю, і шмат уцекачоў вярнуліся ў Польшчу і Літву — у асноўным былі расселеныя ў Кобрыне і Берасцейскай эканоміі. Аднак асобныя іх атрады засталіся ў Камянцы, Бары і Хоціме да 1699, калі яны перасяліліся, у асноўным, у Дабруджу. Пазней было яшчэ некалькі хваляў татарскай эміграцыі з ВКЛ у Асманскую імперыю, і ўсе эмігранты фігуравалі пад імем "ліпкі". Так, у 1715 "літоўскія татары, не выносячы ўціску саксонскіх войскаў, сабраўшыся з усёй маёмасцю, пайшлі да Валахаў, дзе аселі". На працягу ўсяго XVIII ст. Літоўскія татары часта выязджалі праз Малдову ў Турцыю, часам атрымліваючы высокія пасады ў асманскім войску. Так, Якуб Бучацкі з Падляшша, які служыў у артылерыі Патоцкага, паехаў з Рэчы Паспалітай, калі апошні далучыўся да таргавічанаў. Гэтая эміграцыя працягвалася і пасля падзелаў Рэчы Паспалітай. Іншым разам эмігранты мелі за плячыма больш як 20-гадовы досвед службы ў літоўскім войску, як, напрыклад, харунжы Мустафа Рамановіч, які перасяліўся ў Турцыю на пачатку XIX ст. Часцей за ўсё прычынай эміграцыі называўся ўціск з боку царскіх уладаў, як ў 1803 г., калі перасяленцы, якія прыбылі ў Хоцім, скардзіліся на спробы гвалтоўна павярнуць іх у праваслаўе. Тагачасны польскі падарожнік у Турцыю В. Хжаноўскі пісаў: "калі нехта крочыць праз мяжу, звычайна бярэ з сабой аднаго ці двух Хоцімскіх янычараў, якія ёсць татары-"ліпка". Традыцыя кажа, што

імя тое дадзена ім замест "Літва", дзе раней былі аселі. Большая частка іх вельмі добра ўмеюць па-польску".

Да падзелаў Рэчы Паспалітай "ліпкі" даволі свабодна перамяшчаліся паміж Малдовай і Беларуссю, аб чым, напрыклад, занатаваў у сваім дзённіку ў 1722 Філіп Орлік: "наведаў мяне пан Корсак, ротмістр ліпканскі, і распавёў, што з Гродна прыехаў сюды ліпка і данёс, нібы Цар (Пётр I) меўся ўзяць у сваю пратэкцыю караля Станіслава і хоча яго пасадзіць на троне і нібы ў Літве меў выдаць універсалы на правіянт для войска". У "Апісанні Малдавіі" малдаўскі гісторык і дзяржаўны дзеяч Дзмітрый Кантэмір адзначаў: "чатыры ці больш швадроны ліпканскіх татараў — гэта залежыць ад жадання гаспадара. Гэтым іменем называюцца тыя скіфы, якія жывуць у Літве і вызнаюць магаметанскую веру". У "Гісторыі Асманскай імперыі" Кантэмір пісаў: "вядома, што літоўскія татары — ані крымскія, ані агузскія , але чараміскія; таму мае землякі і сёння называюць іх Чырымуш, хаця ў туркаў яны вядомыя як татары-"ліпка", якое слова ёсць скажонае "Літва".

Літ.: Panaitescu P.P. Calatori poloni in tarile Romane. Bucuresti, 1930; Krycyncki S. Tatarzy litewscy. Warszawa, 1938; Димитрий Кантемир. Описание Молдавии К., 1973; Borawski P. Położenie prawne tatarów w WKL. // Lituano-slavica posnaniensia, II.Poznan, 1987.

*Алесь Белы*

## Даследчык Кітабаў

Антон Антановіч, вядомы ў асяродзьзі мовазнаўцаў дасьледчык беларускай мовы, прафэсар Віленскага Дзяржаўнага Унівэрсытэту нарадзіўся 4-га чэрвеня 1910 году ў сялянскай сям'і ў вёсцы Казлы Нясьвіскага павету Менскай губэрні. Сям'я была вялікая; на малым шматку зямлі бацька зь цяжкасьцю карміў 8 чалавек. Таму шлях да асьветы быў нялёгкі. Спачатку пачатковая школа на вёсцы, далей вучыўся ў Нясьвіжы, куды трэба было з дому хадзіць пехатою. З 1928 году — у Вільні. Тут скончыў тэхнічную школу па спэцыяльнасьці "мэханіка". Быў беспрацоўны. Урэшце ўладкаваўся на фізычную працу на будове ўмацаваньняў берагоў ракі Вяльлі ад паводкі.

Замілаваньне літаратураю й мовазнаўствам падштурхнула яго

самастойна рыхтавацца да паступленьня на філялёгію, вывучаць старагрэцкую, лацінскую й замежныя мовы. Ды толькі ў 1945 годзе, калі скончылася вайна, ён паступіў на філялягічны факультэт Віленскага Унівэрсытэту. Пасьля заканчэньня навукі ў 1950 годзе — праца ў рукапісным аддзеле унівэрсытэцкай бібліятэкі, а затым увесь час выкладчыцкая работа.

Яшчэ будучы супрацоўнікам аддзелу рукапісаў пачаў працаваць над дысэртацыяй. Яго ўвагу прыцягнулі судовыя кнігі Ковенскага земскага суда з XVI стагодзьдзя. Як вядома, дзяржаўнаю моваю ў Вялікім княстве Літоўскім на працягу многіх вякоў была мова беларуская. Вось гэтая старабеларуская літаратурная мова й была прадметам дасьледваньня асьпіранта Антановіча. Дысэртацыя была абароненая ў 1961 годзе.

Але гэта былі толькі подступы да галоўнай мары ў яго жыцьці — расшыфраваньню мала дасьледаваных рукапісаў, напісаных на беларускай мове арабскім пісьмом.

Гэты своеасаблівы фэномэн узьнік дзякуючы татарам, якія на пераломе XIV і XV стагодзьдзяў пасяліліся на тэрыторыі Літвы й Беларусі, а іх нашчадкі жывуць тут да сёньняшняга дня.

Лічаць, што частка татараў апынулася ў вялікім княстве Літоўскім як ваеннапалонныя ў барацьбе з татара-мангольскім нашэсьцем, частка ж пасялілася на нашых землях як добраахвотныя перасяленцы, у бальшыні запрошаныя для службы ў Літве вялікім князем Вітаўтам. Татары, жывучы сярод мясцовага насельніцтва, паступова страцілі сваю родную мову, але моцна трымаліся сваёй ісламскай веры. У выніку яны пачалі ня толькі ў паўсядзённым ужытку карыстацца найбольш распаўсюджанай тут беларускаю моваю, а сталі й маліцца на гэтай мове. Дзеля гэтай мэты татарскія рэлігійныя тэксты перакладаліся на беларускую, а пазьней і на польскую мовы, ды захаваліся ў выглядзе рукапісных кнігаў, пісаных арабскімі літарамі. Кнігі гэтыя называліся Аль-Кітабамі, у іх зьмяшчаліся тлумачэньні Карану, малітвы, апісаньні мусульманскіх абрадаў, рытуалы, легенды, нават узоры ўсходняй сьвецкай пісьменнасьці.

Яшчэ ў XIX стагодзьдзі зьвярнулі ўвагу на гэтыя дзіўныя рукапісы некаторыя навукоўцы, але глыбей дасьледваць гэтую

зьяву ня здолелі. Урэшце віленскі археоляг Іван Луцкевіч знайшоў такую кнігу ў вёсцы Сорак Татараў пад Вільняю. Пры дапамозе спэцыялістаў па арабскаму пісьму ён здолеў у 1915 годзе расшыфраваць яе фрагмэнты й пераканаўся, што гэтая кніга з XVI стагодзьзя напісаная на беларускай мове, пры гэтым у ёй лепш адлюстравалася беларускае вымаўленьне, чымсь ў кнігах, пісаных царкоўна-славянскаю кірыліцаю. Вось кароткі фрагмэнт тае расшыфроўкі: "Цёмна было, очы сьветласьці не відзелі. Куры не пелі, сабакі не брэхалі. Дождж ішоў, цёмна было, вецер веяў. Разумеў, што судны дзень настаў". Сапраўды, мова мала адрозніваецца ад сучаснай.

І вось Антановіч узяўся за падрабязнае вывучэньне мовы гэтых рукапісаў, якіх таго часу знойдзена было ўжо нямала. Праца гэтая стала тэмаю яго доктарскай дысэртацыі й закончана была ў 1968 г. Ён вывучаў усе вядомыя рукапісы й займаўся далейшымі пошукамі. Неабходна было самому добра вывучыць арабскі альфабэт. Трэба было вычытаць усе гэтыя тэксты, апісаць адметнасьці іх графіка-арфаграфічнай сыстэмы ў перадачы асаблівасьцяў беларускай мовы. За 7 гадоў была выканана вялізная праца, было апісана 24 рукапісы. Для спэцыялістаў гэтая дысэртацыя стала вялікай падзеяй.

Але Антановіч разглядаў яе толькі як аснову для далейшай працы над гэтымі тэкстамі, якія ўвасабляюць сабою жывую беларускую мову ад XVI стагодзьдзя, а гэтым самым багаты матэр'ял для беларускіх філёлягаў. Ён рыхтаваў матэр'ял, каб скласьці хрэстаматыю гэтых тэкстаў, апрацаваць адпаведны слоўнік. Адначасова ён рыхтаваў спэцыялістаў, якія маглі б працягваць яго дасьледваньні як у Літве, так і ў Беларусі.

Аднак сьмерць, якая надыйшла нечакана ў 1980 годзе, спыніла ажыцьцяўленьне гэтых намераў. Антон Антановіч амаль усё сваё сьвядомае жыцьцё пражыў у Вільні. Ён пакінуў выразны сьлед у навуковых дасягненьнях сталіцы Літвы. Адначасова ў яго вялізарныя заслугі перад беларускаю навукаю, беларускаю культураю...

У Вільні Антановіч жыў на вуліцы Савіч, пазьней збудаваў уласны дамок у раёне Антокаля на вуліцы Мілдос, даўней Палявой.

Пахаваны ён на старых могілках на Ліпаўцы.

*Лявон ЛУЦКЕВІЧ*

# УРЫВАК З КІТАБА

Кітаб, пазначаны ў бібліятэцы Казанскага універсітэта шыфрам КУ-1446, уяўляе сабою вялікую цікавасць для тых, хто вывучае беларускую філалогію і гісторыю беларускіх татар. Вось некаторыя звесткі аб тым, калі і як апынуўся Кітаб у Казані. Шырокую вядомасць ён набыў у 1923 г., калі ў газеце "Татарстан" №67 (722) ад 23 сакавіка 1923 г. былі надрукаваны некаторыя звесткі аб рукапіснай кнізе, напісанай арабскімі літарамі на беларуска-польскай мове. Даследчык гісторыі літоўскіх татар (так называлі татар сучаснай Беларусі, Літвы і Польшчы) А.Самайловіч пісаў: "На Волзе, у Татарскай Слабадзе, пад Кастрамой я бачыў у муллы, вядомага пісьменніка Укмасы ў 1916 г. завезеную ў 1916 г. з Заходняга края рукапісную кнігу. Яе прывезлі татары-бежанцы з Паўночна-Заходняга края ў час Першай сусветнай вайны. У час майго побыту вясною 1925 г. ў Казані я чуў, што Укасы перадаў гэты рукапіс у Цэнтральную Казанскую бібліятэку". Вельмі верагодна, што апісаны Самайловічам рукапіс, які захоўваецца ў бібліятэцы Казанскага універсітэта, і ёсць той рукапіс, які вывезены з Беларусі. Можа хоць у выглядзе добра надрукаванай ксеракопіі вернецца гэты Кітаб да спадкаемцаў, якія змогуць яго вывучаць у нашых бібліятэках.

Кітаб КУ-1446, перапісаны ў 17 ст., а складзены быў, відаць, яшчэ раней. Ён быў даследаваны, як і шэраг іншых беларускататарскіх рукапісаў, слынным вучоным А.К.Антановічам (глядзі ў гэтым нумары "Байрама" артыкул пра яго).

Філалагічны факультэт Вільнюскага універсітэта мае фотакопію Кітаба КУ-1446 і студэнты Галіны Мішкінене-Александровіч выкарыстоўваюць гэты рукапіс на практычных занятках, даволі хутка засвойваюць арабскі алфавіт і яго асаблівасці для перадачы тых гукаў, якіх няма ў арабскай мове, але ёсць у беларускай мове.

Г.Мішкінене-Александровіч гэты ўрывак з Кітаба, які ўзяты з са старонак 62а - 62б ўмоўна назвала "Напамін мусульманіну аб смерці". Яна папрасіла рэдакцыю "Байрама" падрыхтаваць матэрыял да друку, прачытаць, а калі трэба то і ўдакладніць транслітэрацыю.

На нашу просьбу адклікнуўся муфтэй мусульманаў Беларусі Ісмаіл Александровіч, якому мы выказваем шчырую падзяку.

Рэдакцыя "Байрама" спадзяецца, што гэты матэрыял з Кітаба паслужыць тым, хто вывучае арабскую графіку, каб самому чытаць нашы старадаўнія рукапісы. Будзе карысным гэты матэрыял і для тых, хто ў гэтым жыцці думае аб жыцці на тым свеце.

1. Пророк Мухаммед мувіл: чловеча кожны ведай
2. о том пэвне, іж кожного дня могіла твоя цебе
3. пяць раз упомінае тымі словамі, іж я дом
4. пустый, одзінокій, готуй собе товарыша,
5. прыдзі до мне с товарышам, естэм дом
6. цёмный, готуй собе святлосць, прыдзі
7. до мне свечою, естэм дом — земля тварда, зімна,
8. готуй собе посцелю, прыдзі до мне с посцелею,
9. естэм дом, што вела у мне гаду, венжув, готуй
10. собе оборону і прыдзі до мне чым іх бороніціся
11. маеш, естэм дом убогій, ніц не маш, готуй
12. собе есці і піці і прыдзі до мне со стравой
13. готовой. Пыталі у Пророка, што то товарыш?
14. Пророк рэк — Кур'ан пеці і пудышы застаўляці.
15. Пыталі, што ест пасцеля? Пророк рэк — добрыя
16. спасенія учынкі в могіле посцеля. Пыталі, што ест
17. святлосць, свеча? Богомольство чыніць собе
18. свеча готуй. Пыталі, што ест оборона од вэнжов
19. і гадоў? Пророк рэк — покайцеся грэхом і злым
20. учынкам. Пыталі, што ест-піці, есці,
21. і страва што ест? — Пророк Пана Бога Едынаго,
22. вызнаваці Пророка і Посла Божаго.

پْرَورَوقْ مُحَمَّدْ مووِلْ چْلَووَچَ قوزْنِبْ وَدَايْ
اَوطَومْ پَوْتَ اِژْ قَوژْنَوهَو دْنَا مَوهِلَا طْوَويَاچَبَ
پِيتْي رَاظْ اُپَومِنَايَ طِمِ صْلَووَامِ اِژْ يَادَومْ
پُصّطِيْ اَودِنَوكِيْ هَوطِيْ صَوبَ طَووَارِشَا
پْرِيْدِ دَومْنَ صْ طَووَارِشَومْ يَسْتَمْ دَومْ
چَومْنِيْ هَوطَويْ صَوبَ ثْوَاتْلَوثْچْ پْرِيْدِ
دَومْنَ ثْوَچَويْ يَسْتَمْ دَومْ زَمْلَا تْوَا رْدَا زِمْنَا
هَوطِيْ صَوبَ پَوثْتَلُ پْرِيْدِ دَومْنَ صْ پَوثْتَلَيُو
يَسْتَمْ دَومْ شْطَووَلَا اُمْنَ هَادُ وَنْژُووْ هَوطِيْ
صَوبَ اَوبَورَونُوا اِپْرِيْدِ دَومْنَ چِمْ پِيحْ بَورَونِتْثَ
مَايَشْ يَسْتَمْ دَومْ اُبَوهِيْ نِچْ نَمَاشْ هَوطِيْ
صَوبَ يَثْتِيْ اِپِيتِيْ اِپْرِيْدِ دَومْنَ اِصْطْرَاوَويْ
هَوتَووُيْ ۞ پِطَالِ اُپْرَورَوقَا شْطَو طَوطَووَارِشْ
پْرَورَوقْ رَقْ قُرْآنْ پَتِيْ اِپُودِشْ ظَصْطَوْلَاتِ
پِطَالِ شْطَويَسْتْ پَوثْتَلَا پْرَورَوقْ رَقْ دَوبْرِيَ
ضْيَاثْنِيَ اُچِنْكِ وْمَوهِلَ پَوثْتَلَا پِطَالِ شْطَويَسْتْ
ثْوَاتْلَوثْچْ ثْوَچَا يَوهَومَولْ صْتْوَوچِنِتْي صَوبَ
ثْوَچَا هَوطِيْ پِطَالِ شْطَويَسْتْ اَوبَورَونَا اَودْ وَنْژَووْ
اِهَادَووْ پْرَورَوقْ رَقْ پَوضِيْتَثَا غْرَحَومْ اِظْلِمْ
اُچِنْقَامْ پِطَالِ شْطَويَثْتْ پِيتِيْ يَثْتِيْ
اِصْطْرَاوَا شْطَويَسْتْ پْرَورَوقْ يَانَا بَوهَا يَدِنَوهَو
وِظْنَوَاتِ پْرَورَوغَا اِبَوصْلَا بَوزْغَو ۞

*Урывак з Кітаба. Арабская графіка.*

# МАРГАРЫТА САЙФУГАЛІЕВА — МАСТАЧКА З ВІЦЕБСКА

27-28 сакавіка 1997 г. ў Менску адбылася Трэцяя міжнародная навукова-практычная канферэнцыя па праблемах беларускіх татар, якія жывуць тут ужо шэсць стагоддзяў. Гаспадары Універитэта культуры далі месца для слухачоў навуковых дакладаў і дыскусіі, а таксама памяшканне для выставы экспанатаў, што адлюстроўваюць духоўную і матэрыяльную культуру беларускіх татар. Выставу маглі аглядаць як удзельнікі, так і ўсе тыя, каго зацікавіла жыццё гэтай нацыянальнай меншасці.

Па просьбе наведвальнікаў выставы мы сабралі некаторыя звесткі пра стваральнікаў некалькіх палоцен, якія сярод іншых экспанатаў маглі аглядаць у экспазіцыі. Згодна з мусульманскай этыкай, найбольшай заслугай чалавека, калі дасягнуў чаго варты ў жыцці, лічыцца маці. У пісьме да Маргарыты Сайфугаліевай наш карэспандэнт сфармуляваў пытанні можа, і суха, па-казённаму, таму можа, і адказ на гэтыя пытанні таксама некаторым падасца даволі сухім. Вось што напісала нам мастачка, адказ якой мы друкуем з невялікім скарачэннем і ў перакладзе на беларускую мову:

“Я, Сайфугаліева Маргарыта Шайхіеўна, нарадзілася 10 лютага 1935 г. у вёсцы Курані Буінскага раёна ў Татарстане. Бацькі мае татары-мусульмане. Маці, Файруза Сафіулаўна, нарадзілася ў 1900 г. у сям’і камерсанта ў Казані. Пасля шлюбу з Шайхі Мухтаравічам Мулюковым паехала з мужам на вёску, дзе працавала настаўніцай, выхавацелькай у дзіцячым садку. У апошнія гады свайго жыцця цяжка хварэла і памерла ў 1947 г. Бацька мой нарадзіўся ў 1898 г. у сям’і батрака. Вучыўся ў медрэсэ, затым скончыў Маскоўскі універсітэт. Працаваў у Казані на высокіх пасадах. У той час пазнаёміўся з маёй маці, стварыў сям’ю. Ён адгукнуўся на прызыў партыі: “Прэч непісьменнасць!” — і паехаў у правінцыю вучыць татарскіх дзяцей рускай мове і літаратуры. Ён цікавіўся не толькі мовай, але і гісторыяй, астраноміяй. Меў багатую бібліятэку. Я

памятаю, як ён пісаў маме з фронту: "Усё прадай, толькі пастарайся зберагчы бібліятэку". Маці так і зрабіла. Тата верыў у нашу камуністычную будучыню. І таму, напэўна, даў для сваіх дзяцей імёны: мне — Маргарыта, старэйшаму брату — Фердынанд, сярэдняму — Вільгельм, малодшаму — Аляксандр.

Пасля смерці маёй маці, праз год, па маёй і брата просьбе тата ажаніўся. Наша мачаха Тагіра Хабібулаўна 1920 г. нараджэння хоць і не вялікай граматы, але разумная і добрая. Да нас адносілася вельмі добра. Яна і цяпер жыве ў вёсцы Кільдуразы ў сына, дзе жыў і працаваў наш тата і дзе ён пахаваны ў 1961 г.

Мой старэйшы брат Фердынанд нарадзіўся ў 1933 г. Выпускнік Ваенна-марской медыцынскай акадэміі ў Ленінградзе. Працаваў у ваенным шпіталі ў Архангельскай вобл. І цяпер жыве там. Сярэдні брат Вільгельм нарадзіўся ў 1950 г. Жыве і працуе шафёрам у Санкт-Пецярбургу. Аляксандр нарадзіўся ў 1952 г., жыў у Маскве. Нядаўна пераехаў у родную вёску ў Татарстан. Ён — бляхар "залатыя рукі". З ім жыве наша маці.

Я вучылася ў татарскім класе, а ў пятым класе перайшла вучыцца па-руску. Татарскую мову ведаю добра. Пасля завяршэння вучобы ў школе паступіла ў Ленінградскі педыятрычны медыцынскі інстытут. Працавала дзіцячым доктарам, куды па службе пасылалі майго мужа-афіцэра (Омск, Краснаярск, Татарск Новасібірскай вобл.).

У школьныя гады я марыла стаць мастаком, спрабавала даведацца, што трэба рабіць, каб паступіць у Мастацкую акадэмію імя Рэпіна. Мне адказалі, што трэба папярэдняя падрыхтоўка — мастацкая школа ці хоць бы ізастудыя. У мяне такой падрыхтоўкі не было. Прышлося развітацца з маёй дзіцячай марай.

Мой муж Канафій Сайфугаліевіч Сайфугаліеў нарадзіўся ў 1926 г. у Башкортастане. Татарын-мусульманін. Скончыў школу перакладчыкаў, служыў на Далёкім Усходзе, у Сібіры. У адстаўцы з 1972 г. Сваю кватэру ў Омску мы памянялі на кватэру ў Віцебску пасля таго, як нам параіў знаёмы майго мужа. Так што ў Беларусі мы апынуліся не выпадкова. А можа гэта воля Аллага? Віцебск,

відаць, пазначаны на небе як горад спрыяльны для творчасці. Як ні ў якім іншым горадзе, дзе я раней жыла, тут любяць мастацтва. Тут шмат мастакоў, паэтаў, музыкантаў. Мой муж упершыню, як бы выпадкова, узяў пэндзаль. Настаўнікам яго быў таксама аматар, які служыў афіцэрам. Дзякуючы свайму вясёламу нраву мой Канафій пазнаёміўся з тутэйшымі мастакамі і яны ахвотна ўзялі яго ў сваю сям'ю. Цяпер нашы добрыя сябры Фэлікс Гумен, Валеры Чухін, Яўген Красоўскі, Аляксандр Малей. І мой муж стаў сур'ёзна маляваць. Неяк раз, гэта было ў 1989 г., я ў яго папрасіла пэндзаль, фарбы і палатно. Ён мяне навучыў, як трымаць пэндзаль, разводзіць фарбы. І я пачала...

Першая мая карціна "Мама ў раі" ўсім спадабалася. І мне самой таксама. Яе купіў спявак Вілі Токараў у Амерыцы, куды павезла яе мая нявестка. В.Токараў купіў яшчэ мае карціны "Татарская лазня" і "Бяседа". Я, вядома, зрабіла копіі з гэтых карцін, яны ў мяне дома.

У нас у сям'і была энцыклапедыя "Гранат", а ў ёй цудоўныя рэпрадукцыі славутых карцін. І калі я пазней наведала Рускі музей, Эрмітаж, то многія карціны ўжо для мяне былі знаёмыя. Я глядзела на іх з вялікім хваляваннем. І кожны раз у мяне ныла сэрца.

Ці бываю я на Радзіме? Раней ездзіла з мужам штогод, цяпер радзей. Як я ўжо пісала, у Татарстане жыве мая другая маці, малодшы брат, стрыечныя браты і сёстры, пляменнікі.

У нас ёсць сын, які нарадзіўся ў 1964 г. Скончыў Вышэйшае інжынернае марское вучылішча імя адмірала Макарава. Цяпер ходзіць у мора.

Што датычыцца да мяне сёння, можна сказаць, што збылася мара майго дзяцінства. Малюю. Калі каму-небудзь падабаецца мая карціна, то рада. Рада нават тады, калі мае карціны крадуць. Значыць, некаму яны патрэбны, робяць настрой.

Мы з мужам удзельнічаем у тэматычных выставах. У 1995 г. была наша сямейная персанальная выстава. Да дня Перамогі мастакі — удзельнікі вайны наладзілі выставу, у іх ліку быў і мой муж. Я хоць і не удзельніца вайны, таксама дала сваю карціну "Вышыванне кісетаў для байцоў" (трое дзяўчат пры святле газнічкі

вышываюць кісеты — так па-татаарску называюць капшук для тытуню). Яно і ў сапраўднасці так было. Мы вышывалі падарункі для воінаў, а дзяўчаты больш сталыя працавалі на земляных работах у прыфрантавой паласе, бо нават у Татарстане каля заводаў капалі траншэі, каб было дзе схавацца ў час магчымых бамбёжак.

Пра татар-праваслаўных я мала што ведаю. Іх гвалтам хрысцілі пры Іване IV Жахлівым, а таксама і пазней. Такіх татар, якія сталі праваслаўнымі, у нас называюць "крашэн". Варажнечы паміж мусульманамі і крашэнамі няма.

Вы прасілі мяне назваць карціны, якія намалявала. Вось яны: "Мама ў раі" (ёсць паўтор), "Татарская вёска" (яе купіў Дом народнай творчасці), "Татарская лазня" (другі варыянт, купіў Дом народнай творчасці), "Бяседа" (паўтор), "Героі казак Габдулы Тукая", "У царстве Шурале", "Залатавалосая татарачка", "Свякроў і нявестка", "Вясковая Венера", "Сустрэча з сынам" (паўтор), "Скруха" (карціну ўкралі), "Дрывасекі" (карціну ўкралі), "Каля студні", "Пакарэнне Казані Іванам Жахлівым", "Студэнтка" (аўтапартрэт), "Сырадой", "Калючы татарнік", "Добрыя весткі" (купіў Дом народнай творчасці), "Ван Гог і Віцебск" (купіў Дом народнай творчасці), "Татарская мадонна", "Вандроўнікі", "Чэчэнская мадонна", "Стары і сабака" (купіў прыватны калекцыянер), "Шураліха і іншыя", "Мухаммед дыктуе Кур'ан", "Станцыя Кульдуразы", "Сям'я", "Замужняя дзяўчынка", "Партрэт бабулі", "Аўтапартрэт".

Цяпер захапляюся графікай, але мяне дакараюць сябры-мастакі, кажуць, што гэта не мой від мастацтва, што я магу "сапсавацца".

Аб тых карцінах, якія былі на выставе ў час канферэнцыі ў Менску, я даволі падрабязна пішу асобна, ну а як гэта ў мяне атрымалася, няхай мяркуе глядач. Калі хто будзе ў Віцебску, і калі яго зацікавяць мае і мужа палотны, то зайдзіце паглядзець. Мой адрас вядомы рэдакцыі "Байрама".

*Маргарыта Сайфугаліева*

# Крымскататарска-беларускі слоўнік

1500 слоў і словазлучэнняў ад дзядзькі Ісмаіла Меметава

*Крымскататарскае слова ....... Беларускае слова*

**Х**

хабер ............. вестка, інфармацыя, навіна, паведамленне, перадача
хаберджи ........ карэспандэнт
хабер-этмек .... паведаміць
хайрылай ........ віншуе
хайрылмакъ .... вітаць, дзякаваць
хайынлыкъ ...... злачынства
халкъ ............. народ, насельніцтва
халкълар ........ народы, публіка, чалавецтва
халкъара ......... міжнародны
халкъны .......... народны
хане ............... кватэра, пакой, памяшканне
хасиет ............ тастамент (завяшчанне)
хаста .............. хворы
хасталыкъ ....... хвароба
хаста хане ...... больніца, шпіталь
хаста ятмакъ .. хварэць
хатим ............. службовец, чыноўнік
хатрэ ............. памяць
хатырлав ......... успамін
хатырламакъ ... успаміны
хачы ............... крыж
хаял ............... мара
хаялланмакъ ... марыць
химйалы ......... хімічны
хоранда .......... семя, насенне; сям'я
хорандалы ...... сямейны
хорлав ............ гвалт
хорламакъ ....... гвалтаўніцтва
хорчалмакъ ..... абараняць
хорчаланув ..... абарона
хош ................ прыемна
хызмет ........... служба
хызметчы ........ службовец, пакаёўка, работніца
хызмет этмек .. служыць

**Ц**

цемент ........... цэмент
центнер .......... цэнтнер
центр ............. цэнтр
цех ................. цэх

**Ч**

чабак ............. вобла, плотка
чабик ............. хутка, хуткі
чабиклик ........ хуткасць
чавдар ............ жыта
чагъырмак ...... выклікаць, запрашаць, зваць, паклікаць
чагъырув ......... прызыў
чай ................. чай
чайник ........... чайнік
чайыр ............. луг, поле, стэп
чокъланыр ...... павялічыцца
чокъ сайлы ..... шматлікі
чал ................. сівы
чала ............... косіць (касой); грае
чалаш ............ шалаш
чалгъы ........... аркестр; каса (для кашэння); музыка
чалкъана ........ плёскацца; палошчыцца

чалмакъ .......... іграць; касіць
чалт ................ хутка
чалышмакъ ..... працаваць, шчыраваць
чалышыджы .... працаўнік
чалышып къазанмакъ .... зарабіць
чалыштрув ...... прымусіць працаваць
чамашыр ......... бялізна
чамыр ............ гліна, гразь
чанъ ................ звон
чанъ къакъмакъ ... званіць
чанъ сеси ........ звон, званок
чанъ урды ....... звон зазваніў
чана ................ сані
чанта ............. партфель
чапмакъ .......... бегаць, бегчы, пабегчы, імчацца
чапып кирмек . убегчы, хутка ўвайсці
чар .................. цар
чаре ................ сродак; productiveшча
·чарны ............. царскі
чаршенбе ........ серада
чатыша .......... сутыкаецца
чая .................. дзёрзкі, адважны
чебер ............. таленавіты
чевирильмек ... ператвараць, перакладаць
чевирип алмакъ ... акаляючы
чевре ............. вакол
чегертки ......... конік, свяршчок, цыкада
чегирдек ......... костачка
чезмек ............ рашыць
чекишмек ........ пакутваць
чекмек ........... малоць; працягваць, цягнуць
чекмень .......... шынель
чокъ-чокъ ........ занадта; многа-многа
челик ............. сталь
челиктен ......... сталёвы
чемодан ........... валіза, чамадан
чемпион .......... чэмпіён
ченчиль ........... журавель, кран
черик ............. чвэрць, чацвярціна
чет адам .......... пастаронні, пабочны
четинден ......... міма
четке .............. прэч, убок
чет киши ........ пастаронні, пабочны
четте .............. збоку
четтеки ........... крайні, канцавы
чет элли .......... іншаземны
чешит ............. наогул
чешит тюрлю .. дзіўна; варыянт; розны, па-рознаму, разнастайны; страшны
чибин ............. мука
чин ................. званне
чингене .......... жабрак
чиркий ........... камар
чифит ............. пара
чичек ............. кветка
чичечик .......... кветачка
чкъармакъ ...... вывясці; вывадзіць, вынясці
чёль (чоль) ..... поле, стэп
чёльден (чольден) ..... палявы, з поля
чокъ ............... многа, больш
чокъ ачыкъ ..... падрабязнасць
чокъ вакъыт .... працяглы, шмат часу

чокъ олур ....... будзе многа, будзе лішак
чокъланма ....... павелічэнне
чокълары ........ большасць
чокъракъ ......... крыніца, басейн
чокътан берли даўно
чокъча............. больш; мнагавата, найбольш
чокъы .............. большасць, многія, многае
чракъ .............. свечка
чочамий торгай .... жаўрук
чубукъ ........... люлька; пруцік
чувал ............. мех
чул ..................ануча
чунки .............. бо, так як
чызгъы ............ чарцёж
чызма .............. бот
чыкъа .............. узнікаць; выхадзіць
чыкъармакъ .... выцягнуць; вынуць; зняць; выказаць; вымавіць; праявіць; праяўляць; выпускаць; выпуск; стварэнне; праяўленне
чыкъарув ........ выключэнне; здабыча; вывязці
чыкъмакъ ........ выйсці; выхадзіць; пераадолець
чыкъув ............ выпуск; выхад
чыплакъ .......... голы
чыракъ ............ свечка

**Ш**

шаатламакъ .... доказ
шаатлыкъ........ сведчанне
шаир ............... паэт
шайлы ............. весела; ласкава
шай этмек ....... зрабіць так
шай япмакъ .... паступіць
шакъа ............. шутка, жарт
шакъасыз ........ сур'ёзна, сур'ёзны
шамата ........... шум; жартаваць
шан ................ слава
шанлы ............. слаўны
шапке ............. капялюш; шапка
шар ................ вузкі; шар
шарап ............. віно
шаркъ ............. усход; усходні
шах ................ кароль
шаша .............. здзіўляцца
шашмакъ ........ дзіўна
шегер ............. горад
шегерли .......... гарадскі
шей ................ выраб; прадмет; рэч
шейлер ........... рэчывы
шейтан ........... чорт, д'ябал, шайтан
шекер ............. цукар
шенъ .............. вясёлы, радасны
шиир .............. верш, паэзія
шиирли ........... паэтычны
шимди ............ адразу, зараз, цяпер
шимдики ........ дадзены, цяперашні
шимдичик ....... імгненне
шкаф .............. шафа
шорбаджы ....... гаспадар
шойле-бойле ... сякі-такі
штаб ............... штаб
штан ............... порткі, штаны
шу арада ........ адразу, імгненна, момант, раптоўна
шубесиз .......... безумоўна
шура ............... рада, сход, савет
шу дакъкъада .. імгненна, у той жа час
шу саатте ...... у той жа час

Гэтыя словы і выразы трэба ведаць кожнаму татарыну-мусульманіну:

Акыл ........................ Розум
Аллагъ рижа этем ...... прашу Аллага
Аллагъым ярдым эт .... Аллаг, дапамажы!
Аллахнынъ дедиги олур . воля Аллага здзейсніцца
Аллах разы олсун....... каб Аллаг даў згоду
беля ........................... бяда
гунах .......................... грэх
гунахтыр ..................... грэшна
джами ........................ мячэць
дженнем ..................... пекла
дженнет ...................... рай
дин .............................. вера, рэлігія
динни кутмек ............. выконваць асновы Ісламу
иншалла ..................... калі Аллаг дапаможа; калі Аллаг дазволіць; калі на тое будзе Яго воля
ифтар .......................... абрад разгавення вечарам у час Рамазана
къадир геджеси ......... ноч прадвызначэння (Кадыр-ноч у беларускіх татар)
къаргъайым ............... праклінаю
къаргъамакъ ............... праклящце
кяфир ......................... грэшны, нявернік
машшалла ................... малайчына, дзякаваць Богу
мелек .......................... анёл
мелеклер .................... анёлы
мен Аллагкъа иманам я веру ў Аллага
мен мусульманым ....... я мусульманін
мубарек ...................... праведны, святы
нур ............................. промні, якія ідуць ад Бога
Пейгъамбер ................ Прарок
разы алмакъ ............... пагадзіцца
Рамазан ...................... месяц Рамазан
Рамазан байрамлы ...... свята Рамазана
саваб ........................... святое
саваб этмек ................ чыніць дабро, рабіць дабро
темшид ....................... спажыванне стравы на золаку, перад узыходам сонца ў Рамазане, у час посту

## Пошта квартальніка



Салям алейкум, дорогие соплеменники и единоверцы!

Ибрагим Борисович, спасибо Вам за приглашение на конференцию, но, к великому моему сожалению, я не смог приехать, хотя много кое-чего хотел вам повезти. В нашем агентстве денег на командировку не нашлось, и, к моему удивлению, отказали в командировке даже в исполкоме Всемирного конгресса татар (может, из-за того, что вы не послали им приглашение?). Истратить на поездку свою зарплату я не решился — перед семьёй совестно. Но душой я был с вами. Высылаю вам статью, с которой я хотел выступить — возможно, она пригодится для ваших изданий. Профессор Яков Гришин сообщил, что в Литве татарские торжества состоятся в конце июня, а ваш родственник из Сопота написал, что в Польше татарский юбилей состоится в сентябре. Постараюсь поехать хотя бы на одно из этих мероприятий, если найдётся спонсор. В таком случае, конечно, остановлюсь и в Минске.

Очень прошу: напишите, пожалуйста, (или поручите кому-нибудь) поподробнее о ходе конференции, её участниках и гостях. Заранее благодарен. И ещё: не смогли бы Вы прислать мне свежие номера "Форума"? Дело в том, что я загорелся идеей выпускать подобный журнал в Казани.

Ваш Фаяз Фаизов, до сих пор скорбящий о том, что конференция прошла без его участия.

P.S. Чуть не забыл: мы готовим специальный номер газеты "Татарские края", весь и целиком посвящённый 600-летию поселения татар на землях Речи Посполитой. Ждём от вас материал объёмом примерно 7-8 м/с. Желательно с фотографиями или рисунками, до конца апреля — начала мая. Можно по факсу 75-47-47 (код Казани — 8-843-2) или по электронной почте:

TATINFO@ADONIS.TAT.KAZAN.SU (сеть IASNET) или
ROOT@INFORM. KAZAN.SU (сеть RELCOM)

Пишите мне домой (кроме материала в газету): 420126 Казань, ул.Чехова, д.11, кв.88.

*Фаяз Фаізаў 1.04.97*



Салям алейкум, дорогой Ибрагим Борисович!

Получил ваше послание, спасибо. Если я раздобуду денег на командировку, то, конечно, приеду на конференцию. Оставьте мне, на всякий случай, минут пять для выступления.

Мои дела насчёт фильма о польско-литовско-белорусских татарах продвигаются пока неважно. Начал обхаживать очередную инстанцию. Если не выйдет, попробую обратиться к коммерческим структурам. Кстати, есть ли у вас в Минске знакомый кинооператор, который снял бы этот фильм на европейском уровне? То есть нужен высокопрофессиональный кинооператор с творческим подходом к делу. Не знаю, найду ли я такого в Казани, ведь у нас кинематография — в зачаточном состоянии. Передавайте всем привет.

*Ваш Фаяз. 27.02.97*

## Па старонках штотыднёвіка "Татар иле"

*Татарскі штотыднёвік надрукаваў багаты матэрыял пад агульнай назвай — "Шэсць стагоддзяў на новай радзіме: 1397-1997".*

Напрыканцы чэрвеня добры сябар беларускіх, літоўскіх і польскіх татар — пісьменнік і журналіст Фаяз Фаізаў даслаў нам 21-ы нумар "Татар иле" ("Татарскія краі"), які выдаецца ў Казані з кастрычніка 1990 г. на татарскай і рускай мовах, і чытаецца татарамі і ўсімі тымі, хто цікавіцца гэтым народам амаль на ўсіх мацерыках свету. Мы думаем, што хоць бы назвы артыкулаў і прозвішчы аўтараў нам трэба назваць, а пазней, з дазволу рэдакцыі штотыднёвіка, нават перадрукаваць у нашым "Байраме".

На першай і трэцяй старонках змешчаны артыкул прафесара Казанскага дзяржаўнага універсітэта Якава Грышына "Пачатак асадніцтва татар у Вялікім Княстве Літоўскім". Вельмі цікавыя артыкулы "Літоўскія татары на Волзе", "Казань пачыналася ... з Літвы?", "Ад Вітаўта да цара" не падпісаны, але Фаяз Фаізаў, які

падрыхтаваў матэрыялы пра нашых татар у гэты нумар, спадзяемся, дашле імёны даследчыкаў, якія працавалі над гэтай тэматыкай.

"Скрозь дождж і вецер слухаю голас продкаў" — пад такім загалоўкам змешчаны вельмі цёплы матэрыял пра Сяліма Хазбіевіча, гісторыка-філолага, паэта, грамадскага дзеяча, рэдактара "Штогодніка польскіх татар". "У пачатку двадцатага стагоддзя" — пад гэтай публікацыяй подпіс — матэрыялы падрыхтаваў прафесар КДУ Я.Я.Грышын. Ці той жа вучоны, што напісаў і першы артыкул "Пачатак асадніцтва ..."? "Пра татарскія карані Сянкевічаў", сярод якіх знакаміты польскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1905 г., напісаў яго нашчадак з Кашаліна з Польшчы Юліуш Сянкевіч.

Пра пасляваенную гісторыю татар у Польшчы піша дацэнт, доктар навук, супрацоўнік філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку Алі Міськевіч. "Мы патрэбныя адзін аднаму" — піша Муса Канапацкі. Пераклад гэтага артыкула з польскай мовы зрабіў для "Татар иле" прафесар Я.Грышын. Працы гісторыка і публіцыста М.Канапацкага (яго бацька палкоўнік, нарадзіўся ў Менску) шырока вядомыя сярод тых, хто шукае шляхі ўзаемаразумення сярод людзей розных веравызнанняў у Польшчы і ў свеце.

"З надзеяй на будучыню" — з гэтага артыкула чытачы штотыднёвіка ад Паволжа да Татарскага праліва на Далёкім Усходзе даведаюцца пра тое, як жывуць і на што спадзяюцца беларускія татары на думку Ібрагіма Канапацкага (яго роля, пасада і навуковыя заслугі добра вядомы чытачам "Байрама" і ўсім татарам Беларусі).

Завяршаючы кароткі агляд 21-га нумара "Татар иле" хачу сказаць, што беларускія татары вельмі ўдзячны ўсім тым, хто падрыхтаваў гэты нумар штотыднёвіка, хто адшукаў, зрабіў вельмі цікавыя, змястоўныя ілюстрацыі да гэтых артыкулаў, хто аддаў такую вялікую плошчу гэтага нумара, адклаўшы на пасля патрэбныя, пільныя матэрыялы.

У некалькіх радках скажу пра тое, якія яшчэ матэрыялы змяшчае 21-ы нумар “Татар иле”: Мінцімер Шайміеў: “Кожны народ вялікі сваімі справамі”. “Канферэнцыя аб’яднала” — пра ўстаноўчую канферэнцыю Чувашскага згуртавання Татарстана. “Джыгіты стануць марскімі афіцэрамі”, “Новы дзень тыдня на берагах Туры” — пра літаратурны вечар татар сібірскага краю. “На сярэдзіне Расіі” — пра афіцыйную дэлегацыю Татарстана ў Екацярынбургу. Пра сабантуй ў Цюлячынскім раёне, які наведаў Прэзідэнт Рэспублікі Татарстан з жонкай, паведаміў Н.Хасанаў. У знакамітай казанскай мячэці Марджані 9 чэрвеня адбыўся пленум Духоўнага ўпраўлення мусульман Татарстана. Сярод цікавых пытанняў, якія разглядаліся на пленуме, было адзначана, што ўпершыню ў гісторыі (пасля 1917 г.) надрукаваны Свяшчэнны Кур’ан тыражом 10000 паасобнікаў. Звесткі пра выбар дэлегатаў на Сусветны кангрэс татараў даюць санкт-пецярбургскія і калінінградскія татары.

На сёмай старонцы штотыднёвіка вельмі цікавыя матэрыялы, з ілюстрацыямі. Артыкул падпісаны Русланам Мінваліевым, навучэнцам 10"А” класа Татарска-турэцкага эканамічнага ліцэя г. Казані. Назва “Сёе-тое аб сімвалах Булгарыі”. Здзівіць чытача, што Татарстан, Балгарыя (Дунайская), Міжрэчча (Месапатамія), Манголія і нават Дакота ў Паўночнай Амерыцы маюць сімволіку — грыфона, які сведчыць пра былую сувязь настолькі аддаленых раёнаў зямлі. “Татарскі след у мараплаванні” — такі загаловак дадзены матэрыялу Міра Нігматуліна. “Хацелася б, каб у цяжкім лёсе нашай нацыі, якая не забыла сваю мову, веру, імя такога карабля (“Тартар”, пад такой назвай 300 гадоў плавалі караблі англійскага флоту)... новыя бізнесмены-татары ўзяліся б і зрабілі ня толькі выявы легендарных караблёў, але і герба, які насілі на працягу стагоддзяў добрыя караблі Каралеўскага флоту. У англійскім флоце кожны марак ведае, што ТАРТАР азначае стойкасць і геройства!”

## Паэтычная старонка

## ВЕРШЫ БРАНІСЛАВЫ ЛАПКОЎСКАЙ

### У ТУЮ СТРАШНУЮ ВАЙНУ

Спалілі карнікі дашчэнту вёску,
У якой дзяды і прадзеды жылі.
На папялішчы печы-коміны стаялі,
Уздоўж вуліц асмылелыя бярозы і кляны.

Знішчалі ворагі ўсё, што мы любілі,
Знішчалі ўсё, што нашы продкі зберагглі.
Не шкадавалі хараства маёнткаў над прудамі,
Ні веж касцёлаў, ні цэркваў купалы.

### РАБІНА

Каля хаткі, сэрцу мілай,
Пахінулася рабіна,
Вецер выў у комін-вуха,
Ціха, ціха яе слухаў.

На галінках той рабіны
Ліўся голас салаўіны.
І спявалі птахі хорам,
Потым усе ляцелі ўгору.

Разляталіся па свеце
Салаўіхі-маці
Дзеці...
Каб сабраць крыху зярнятак
І вярнуцца зноў да хатак,
А рабіна ўсё стаяла,
Салаўёў прылёт чакала.

Каля хаткі, сэрцу мілай,
Пахінулася рабіна,
Вецер выў у комін-вуха,
Ціха, ціха яе слухаў.

## ГЕОЛАГ І ПАЭТ

Камалетдзінаў Наіль нарадзіўся 27 студзеня 1932 г. у Казані. Бацькі яго татары: маці Зулейха з Гілязавых, бацька Ісмагіл. У сям'і было яшчэ трое братоў — Шаміль (загінуў на вайне), Каміль і Ільдар, а таксама сястра Раіса. Наіль у 1955 годзе скончыў геалагічны факультэт Казанскага універсітэта па спецыяльнасці геафізіка. Да 1979 г. працаваў у геалагічных арганізацыях Узбекістана, затым у марской геолага-геафізічнай экспедыцыі ў Калінінградзе. Н.Камалетдзінаў з'яўляецца першаадкрывальнікам Шахпацінскага газакандэнсатнага радовішча (Каракалпакія), аўтарам навуковых артыкулаў па геалогіі, сааўтарам геалагічных карт па рэгіёнах Сярэдняй Азіі. Займаецца перакладамі на рускую мову паэтычных твораў з цюркскіх моў (у тым ліку паэмы "Гісторыя Кондыса", напісанай па-татарску Фаязам Фаізавым).

Наіль Ісмагілавіч добра ведае польскую мову. Трагедыя, якая здарылася з паштальёнам (беларускія татары згадваюць, што такая бяда спасцігла татарына-мусульманіна), не магла пакінуць абыякавым і Н. Камалетдзінава. І хоць вядома некалькі перакладаў гэтага першага верша беларускага паэта Людвіка Кандратовіча на рускую і беларускую мовы, але татарскі паэт, як мне здаецца, зрабіў вельмі ўдалы пераклад, які, як кажуць, і па духу, і па сэнсу адпавядае польскаму арыгіналу.

Чытачы "Байрама" ўжо раней пазнаёміліся з некаторымі перакладамі Н.Камалетдзінава на рускую мову татарскага паэта Мусы Джаліля. Спадзяемся, што сустрэчы з вершамі Наіля, яго перакладамі будуць частымі і прыемнымі для чытачоў "Байрама".

Владислав Сырокомля
(Людвик Кондратович)

## ПОЧТАЛЬОН
(сельское предание)

Средь шума и гама здесь пьют и болтают,
Лишь ты словно пленник угрюмый.
Вот трубка, вот чарку тебе наливаю,
Открой мне, о чём твои думы.

Почтовый рожок, колокольчик поддужный
Не в силах ты слышать как будто.
Два года ты с нами работаешь дружно,
Но грустен всегда почему-то.

— О горько мне, тяжко всегда и повсюду,
Не хочется жить мне порою.
Ты чарку налей мне, рассказывать буду
И правды печальной не скрою.

Ведь с молоду я с этой почтой связался,
И всякое в жизни бывало.
И ночи и дни я работал, старался
И трудностей видел немало.

Людей и пакеты почтовою тройкой
Возил я тогда постоянно,
А злотый завёлся — так сразу попойка,
Все веселы, сыты и пьяны.

Девчат завлекал я, был дружен с парнями,
Сам писарь со мной был как с ровней.
И был я доволен своими конями —
Лишь свистну — летят мои кони!

Как славно по тракту, трубя непрестанно,
Промчаться на тройке почтовой,
Везти то ли пана, то ль барышню-панну,
Поверь, дорогого то стоит!

А сердце моё покорила зазноба,
Что в дальнем селе проживала,
И хоть мимолётно, но снова и снова,
Заглядывал к ней я бывало.

Однажды наш писарь гонца присылает
И просит придти поскорее.
А холодно, ночь, и метель завывает,
Позёмка вдоль улицы веет.

— "Свезёшь эстафету!" — я слышу с порога.
Пошёл, чертыхаясь, без звука.
Коня оседлал, взял пакет — и в дорогу,
Морозной метелью окутан.

Ведь как ни мело бы, и как бы и не дуло,
Осилить дорогу я должен.
Уже два столба верстовых промелькнуло,
И должен быть третий — о Боже!

Мне крики отчаянья в гуле метели
Послышались чётко и ясно.
Там кто-то бредёт без надежды и цели
И может пропасть понапрасну.

Коня повернул — будто шепчет мне кто-то:
"Подумай, зачем тебе это.
Ты с милкой потешься своей беззаботно,
До срока свезя эстафету".

Дыханье прервалось, и сердце заныло.
Не приняв решенья иного,
Я крик заглушил, протрубив очень сильно,
И дальше погнал вороного.

А час возвращенья был ясен и светел,
Но вновь, как и ночью минувшей,
Я в сердце волненье былое отметил,
И ужас сковал мою душу.

Мой конь вороной вдруг застыл на дороге,
И я огляделся несмело:
Увидел я мёртвое тело в сугробе,
Застывшее женское тело.

Узнал я её, что метельною ночью
Нашла в том сугробе могилу.
Что ж, выпьем, приятель, ты видишь воочью —
Живу я теперь через силу.

## Сумныя навіны:

Умерли мусульмане:

1. Ремзи Аблаевич Джелилов, крымск. татарин, Минск, жил 1918 — 1996, окт.
2. Корицкий Мустафа, Смиловичи, ум. 3.04.96, жил —
3. Усманова Халиса Шафиловна, Минск, ум. 16.12.96.
4. Бабушка Закия, Смолевичи, ум. 13.11.96.
5. Ильясевич Асан Мустафович, Смиловичи, ум. 14.12.96.
6. Шабанович Мустафа Александрович, имам Ивьевской мечети с 1939 по 1994 г., жил 88 лет.
7. Хасеневич Хадиджа, Смиловичи, жила 69 лет, ум. 13.12.96.
8. Хасеневич Зейнаб, Смиловичи, 68 лет, ум. 20.07.96.
9. Муха Елена (Галия), Смиловичи, жила 90 лет, ум. 11.01.97.
10. Хасеневич Галия, Смиловичи, жила 79 лет, ум. 14.01.97.
11. Мискевич Сулейман Матвеевич, дер. Десятники Воложинского р-на, 1913 — 4.02.97.
12. Мискевич Галия Матвеевна, дер. Десятники Воложинского р-на, 1916 — 2.03.97.
13. Хасеневич Мустафа, Смиловичи, ум. 9.02.97, жил 71 год.
14. Якубовский Керим, февраль 1997 г., г. Клецк, жил 68 лет.

# Змест